PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 8 (2023) ГОД XL БЕЛАСТОК 19 ЛЮТАГА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

## НАЙБОЛЬШ ЗДЗІЎЛЯЮЦЦА САМІ БЕЛАРУСЫ



**АНДРЭЙ СЦЕПАНЮК** — нарадзіўся ў 1963 годзе ў Бельску. Закончыў беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта, працаваў настаўнікам беларускай мовы ў Агульнаадукацыйным ліцэі імя Браніслава Тарашкевіча. Ад верасня мінулага года з'яўляецца бурмістрам Бельска-Падляшскага.

*— Андрэй, ці адчуваеш ужо сябе бурмістрам? Пытаю таму, што Ты доўга не пагаджаўся кандыдаваць на гэту пасаду?*

— Бурмістрам трэба было стаць ужо ў першы дзень працы. Праблемы, якія перада мною паявіліся, іх складанасць, не дазволілі на разважанні — ці варта было. Трэба было проста працаваць, доўга і ў вялікім напружанні.

*— У пэўны момант нашае асяроддзе вельмі інтэнсіўна займалася палітыкай, але, практычна, толькі Ты пераступіў мяжу, за якой канчаецца гульня ідэйных дылетантаў, а пачынаецца прафесіяналізм. Як гэта ёсць, калі чалавек становіцца прафе-сіяналам у палітыцы?*

— Для мяне, так як для большасці з нас, палітыка пачалася ў 1989 годзе. Тады мы з Янкам Морданем развешвалі плакаты і агітавалі галасаваць за беларускіх кандыдатаў у парламент. Потым была праца ў Беларускім выбарчым камітэце, які завязаўся ў Бельску з нагоды самаўрадавых выбараў 1991 года. І роздум над тым, што зрабіць, каб змяніць палітычныя абставіны ў горадзе, якія ўзніклі пасля тых жа выбараў. Ну і дзякуючы даверу сяброў, намаганні над стварэннем таго, што і да сёння называецца Бельскай кааліцыяй. Потым усё пакацілася вельмі хутка, нашая перамога ў выбарах, цяжкія размовы з апазіцыйнай кааліцыяй наконт вылучэння новых выканаўчых улад горада, урэшце згода адносна маёй асобы на бурмістра... А як гэта ёсць? Стараюся, каб было як найбольш нармальна. Ніколі не можна забываць, што сёння я бурмістр горада, а заўтра можа мяне ўжо тут не быць.

*— Пасля трох месяцаў прыкладнага сужыцця з апазіцыяй прыйшоў першы канфлікт, звязаны са зменай сакратара і скарбніка Гарадской управы. Ці наспяваюць новыя, якія выцякалі б з патрэбы рэалізацыі выбарчай праграмы?*

— Я напэўна не шукаю канфліктаў. Аднак не магу таксама згадзіцца на тое, каб хтосьці за мяне вырашаў так важныя пытанні, як падборка кадраў на пасты сакратара і скарбніка горада. Гэта я і людзі з Бельскай кааліцыі будуць, галоўным чынам, адказваць за тое, што ў Бельску зробіцца ў бліжэйшы час. Зрэшты, персанальныя справы заўсёды цяжкія ў вырашэнні. І хаця я, у адрозненні ад сваіх папярэднікаў, нават не думаю праводзіць чысткі, то пэўныя змены неабходныя.

*— Ці лічыш, што палітычная сітуацыя ў Бельску стабільная? Ці дзве кааліцыі — Бельская і „Jedność” — адпавядаюць поглядам грамадскасці? Урэшце, як на практыцы выглядае Тваё супрацоўніцтва з апазіцыяй?*

— Сваю працу не дзялю я на кантакты з кааліцыяй і апазіцыяй, а стараюся працаваць проста з людзьмі. Адзін з маіх намеснікаў — з „Jedności”. На штодзень у нас столькі спраў, столькі праблем чакае развязкі, што няма часу гаварыць пра ідэалагічныя разыходжанні. Але, хаця працуем разам, я не веру, што ў Бельску ўзнікне нейкі „Фронт адзінства народу”. Таму трэба Бельскую кааліцыю ўтрымаць прынамсі да наступных выбараў...

*— ...у якіх прыйдзецца расплачвацца за чатыры гады ўлады.*

— Так. Галасы выбаршчыкаў будуць найлепшай ацэнкай нашай працы. Сёння сітуацыя ў Бельску, лічу, выразная і адпавядае палітычным сімпатыям жыхароў.

*— Якія справы ў Бельску чакаюць неадкладнага вырашэння?*

— Па-першае, трэба дакончыць пабудову гарадской кацельні. Сённяшняя сістэма ацяплення горада ўстарэлая, моцна забруджвае асяроддзе. Патрэбны новыя санітарныя каналы, каб у большай ступені выкарыстоўваць ачышчальню сцёкаў. Цяпер ачышчальня працуе толькі на 25—28% сваёй моцы. На вуліцы Бранскай працягваецца пабудова гідравузла — трэба яе таксама закончыць. Жыллёвае пытанне ў нас набалелае. Многа людзей прыходзіць з просьбай дапамагчы ім атрымаць нейкае памяшканне. Здаецца, неабходна пабудаваць яшчэ адзін камунальны „блок”, які паправіў бы ўмовы жыцця найбяднейшых

*Працяг на стар. 3*

## Беларускі тэатр у Беластоку?!

**З МАРЫЯЙ АЛІФЕР**, студэнткай I курса тэатральнага факультэта, аддзялення рэжысуры Беларускай акадэміі мастацтваў, гутарыць **АДА ЧАЧУГА**.

*— Што чуваць у Менску?*

— Не ведаю. Ад дзевятай да дзевятай у нас заняткі.

*— Так многа часу патрабуе вучоба на аддзяленні рэжысуры?*

— Мы ж займаемся супольна з акцёрскім аддзяленнем, а, апрача таго, даходзяць асобныя заняткі па рэжысуры. Прадметаў, практычных, вядома, у нас нямала: сцэнічная мова, сцэнічны рух, майстэрства акцёра, музычна-рытмічнае выхаванне, рэжысура, канструкцыя абсталявання сцэны.

*— Але ж ёсць яшчэ і агульнаадукацыйныя прадметы?*

— Ну, зразумела. Гісторыя тэатра, літаратура, фальклор, гісторыя Беларусі і іншыя.

*— Дык, кажаце, на агляданне Менска часу зашмат няма?*

— Затое магу сказаць, што адбываецца ў Акадэміі!

*— А што новага ў Акадэміі?*

— У Акадэміі новая прапанова. Менавіта, набраць адзін курс студэнтаў з Беластока на тэатральны факультэт па спецыяльнасці: акцёр. Было б каля дзесяці асоб. І ўсё гэта з думкай, каб пасля чатырох гадоў вучобы стварыць беларускі тэатр на Беласточчыне. Ідэю падкінуў Леанід Дзягілеў, прарэктар Беларускай акадэміі мастацтваў. Курсам абяцаў



*„Заўсёды ўсміхаецца”, — так апісаў Марыю адзін студэнт, якому далі заданне ахарактарызаваць сяброўку.*

заняцца Уладзімір Мішчанчук, дэкан тэатральнага факультэта.

*— Знойдзецца ў нас столькі ахвотных?*

— Спадзяюся, што так!

*— Сітуацыі акцёраў, нават тых, што ў нас апынуліся нарэшце „ва ўласным доме”, сёння не пазайздросціш, латаюць дзіркі не цалкам прафесіянальнай дзейнасцю, а што ўжо гаварыць пра беларускіх акцёраў у Польшчы, без кала і двара, як кажуць. „Ніву” ўжо выкінулі з наседжанага месца — сёння ж дастаткова толькі павысіць плату за памяшканне, каб пусціць газету з торбаю. Беларускае таварыства выкідаюць з будынка, у якім была глядзельная зала і Галоўнае праўленне працавала больш 35-ці гадоў, а прэзідэнт Беластока ў тэлевізіі цынічна заяўляе: „Што гэта за культура, якая мае толькі адзін будынак?!” (дык трэба забраць і апошні!), а вы збіраецеся ствараць у Беластоку беларускі тэатр?! Праўда, пра такі тэатр гаварылася ўжо даўно і многа, але, як дагэтуль, нічога не выйшла... І вы лічыце, што ў данай сітуацыі магло б нешта выйсці?*

— Мы разлічваем толькі і выключна на энтузіязм маладых людзей, ну, а таксама на свядомых і адданых справе спонсараў.

*— Адкуль іх узяць, такіх свядомых?!*

— І я, і іншыя артысты „Балагана”, а раней „Парнаса” аднекуль жа ўзяліся!

*— Але ж вы тут самарэалізаваліся, а спонсар, як-ніяк, мусіць выкласці грошы на чужыя справы.*

— Гэта справы **нашы!** Ужо цяпер ёсць такія людзі,

*Працяг на стар. 5*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Na liście nie lubianych przez Polaków narodów ostatnie miejsce zajęli Niemcy. Najbardziej odrzucani byli: Cyganie, Rumuni, Ukraińcy, Arabowie, Rosjanie, Murzyni i Białorusini.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 22)*

* * *

*W większości armii zachodnich kapelani wojskowi mają status urzędników państwowych. Francuscy duchowni, świadczący posługę religijną w armii, noszą mundury bez oznak stopni, ale obowiązują ich zasady regulaminów wojskowych. Wojskowi duchowni w Belgii, ubrani w mundury bez dystynkcji, są formalnie cywilami pracującymi dla armii. Brytyjscy kapelani nie noszą mundurów i nie mają stopni wojskowych. Duchowni Bundeswehry są opłacanymi przez wojsko urzędnikami kontraktowymi.*
*(Wprost, nr 5)*

Атэістычны Захад не ведае нават, як прыгожа выглядаюць афіцэрскія зорачкі на пагонах у капеланаў.

* * *

*Pewien obywatel, Krzysztof Baszniak (PSL), został podejrzany o wyłudzanie kredytów i przywłaszczenie gotówki spółki Secom PL, której był wiceprezesem. Od stycznia 1993 r. pan Baszniak figurował na liście osób poszukiwanych przez policję. Policja poszukiwała go tak skutecznie, że Baszniak pełniący funkcję dyrektora Departamentu Ekonomicznego w Ministerstwie Ochrony Środowiska, awansował na wiceministra pracy. Prokuratura i policja dalej ścigały pana Baszniaka, nie mogąc ustalić miejsca jego pobytu. Tymczasem on regularnie przychodził do roboty w Ministerstwie Pracy i bywał na posiedzeniach rządu. I dalej bywałby na tych posiedzeniach, gdyby nie pobił reportera pewnej gazety. To spowodowało, że zaczęto o nim pisać, ale i to nie zainteresowało policji.*
*(Gazeta Współczesna, nr 20)*

* * *

*Polski rząd ciepłą ręką daje nam (studentom narodowości polskiej ze Wschodu — red.) stypendia, akademiki i możliwość studiowania, za co jesteśmy wdzięczni. Odpychani barierą obcości od studentów z kraju Polacy ze Wschodu integrują się między sobą jako ludzie byłego ZSRR. Ich językiem porozumiewania się jest rosyjski. Mieszkają w Polsce, w polskim akademiku razem z rodakami tworzą oni jedną całość, ale nie polską, lecz „radziecką",* — напісалі студэнты „Polonii Wschodniej".
*(Gazeta Wyborcza, nr 22)*

* * *

*Прыйшоў час перастаць гаварыць пра рускіх і беларусаў у катэгорыі братоў і сясцёр. Ёсць іншае добрае паняцце — суседзі, — такім было апошняе выказванне з боку прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі падчас сустрэчы з міністрам замежных спраў Расіі Андрэем Козыравым.*
*(Звязда, н-р 15)*

Міністр адказаў: „праўду пачуеш толькі ад братоў".

* * *

*Агульнавядома, што за апошнія стагоддзі расійскі і польскі шавінізм, за тым і бальшавізм добра папрацавалі на тое, каб вынішчыць у беларусаў нацыянальную гістарычную і духоўную памяць. Ім многае ўдалося. Бясспрэчна, што нідзе ў свеце няма такога народа, каб многія прадстаўнікі яго так зацята ненавідзелі айчынную гісторыю, родную мову і культуру, саміх сябе, так апантанна змагаліся супраць набытай дзяржаўнасці.*
*(Народная газета, н-р 17)*

* * *

*Mam 20 lat i nie chcę być żołnierzem! Zastrzeliłbym „dziadka" czy „trepa", gdybym zobaczył przejaw wykorzystywania przez nich młodych kolegów, o mnie nie mówiąc. Nie darowałbym skurwysynom! — pisze Piotr z Bielska Białej.*

*Przeszedłem to piekło. Kazano mi biegać po korytarzu z płonącym pudełkiem pasty do butów. W styczniu wychodzić w piżamie na mróz. Były inne poniżające rzeczy — dlatego chciałem ze sobą skończyć, otruć się. Oficerów zawodowych to nie obchodzi — napisał Adam z Krakowa.*

*Kiedy próbowałem skarżyć się, „dziadkowie" włożyli mi głowę do muszli klozetowej i spuszczali wodę. Wreszcie kazano mi się onanizować przy kolegach. Tak było codziennie. Sam nie mogłem niczego zmienić. Autor tego listu podaje nazwiska, numer jednostki. Wstrząsające dokumenty.*
*(Polityka, nr 4)*

Цікава, ці маладыя салдаты спяваюць сёння песню: „Niech nam kto mówi co chce, w wojsku wcale nie jest źle".

* * *

*Паводле сведчання намесніка прэм'ер-міністра С. Лінга ў Беларусі налічваецца 5 мільёнаў 600 тысяч рознага кшталту льготнікаў.*
*(Літаратура і мастацтва, н-р 3)*

Добра жыць у краіне, у якой амаль кожны грамадзянін мае нейкія льготы. Найгоршае тое, што капіталізм, які неўзабаве завітае на беларускую зямлю, знішчыць гэты цудоўны парадак. Краінай шчаслівых людзей хутка астанецца толькі Паўночная Карэя, можа яшчэ Куба.

* * *

*Беларусь і Літва: мадэль добрасуседзтва.*
*(Свабода, н-р 3)*

Ці гэта здзек над рэчаіснасцю?

* * *

*W rozwiniętym świecie nie jesteś petentem, nie dopraszasz się łaski, nie podlegasz władzy ekspedientów, urzędników, policjantów, taksówkarzy, portierów, lekarzy. Jesteś klientem. A klient, facet, który przyszedł zostawić swoje pieniądze, to jest świętość. Kiedy w Polsce ten pogląd się upowszechni?* — пытае малады амерыканец.
*(Polityka, nr 4)*

Nie z nami te mieszczańskie numery, спадар амерыканец! Святасць для вяскоўца гэта гонар. Таксіст, ураднік, цырульнік, афіцыянт — гэта перш за ўсё пан. Ці так цяжка гэтае зразумець усялякай заакіянскай „навалачы"?

* * *

*Nie przejmujcie się już! Nawet jeśli uważacie, że Wasza sytuacja jest dramatyczna, dziś Wy także możecie spotkać szanse, pieniądze i miłość. Nie jest to takie niemożliwe jak myślicie. Pozwólcie mi tego dowieść. Zrobię dla Was dwie rzeczy. Przede wszystkim rozpocznę działania mediumiczne na Wasze zdjęcie, żeby faworyzować prawdziwą szansę w Waszym życiu. Następnie, zrobię dla Was ogólną analizę, którą prześlę Wam dyskretnie pocztą. Analiza ta zadziwi Was... Pomoże Wam zrozumieć dlaczego do tego momentu nie mieliście szczęścia w życiu, wskaże Wam formułę, którą zna niewiele osób i która pomoże w uzyskaniu dużej ilości pieniędzy. Zdradzę również co robię by powróciła utracona miłość. Proszę Was tylko, żebyście nikomu nie wyjawili tego sekretu.*
*(To i owo, nr 6)*

А ўсё гэтае дарма для тых, якія купляюць часопіс „To i owo". Рэдакцыя мае ў сваім складзе цудатворнага „Nobrela", які можа вырашыць усе праблемы чытачоў.

# З мінулага тыдня

**Польшча падпісала Канвенцыю аховы нацыянальных меншасцей.** Да гэтай пары канвенцыю парафіравалі 20 дзяржаў, якія абавязаліся змагацца з праявамі дыскрымінацыі меншасцей, гарантаваць ім раўнапраўе, свабоду ў наладжванні сходаў і стварэнню арганізацый. Названы дакумент заахвочвае развіваць культуру нацыянальных меншасцей, супрацьставіцца абмежаванням у доступе да сродкаў масавай інфармацыі.

**Прадстаўнікі нацыянальных і этнічных меншасцей сустрэліся ў Варшаве з праф. Анджэем Сіцінскім** — намеснікам старшыні Еўрапейскай камісіі супраць расізму і неталерантнасці пры Радзе Еўропы. Удзельнікі сустрэчы (адсутнічалі літоўцы і цыганы) дайшлі да вываду, што супрацьставіцца неталерантнасці трэба шляхам стварэння добрых законаў і адукацыі грамадства. Згаданая камісія была створана падчас сустрэчы ў вярхах дзяржаў-удзельніц Рады Еўропы ў Вене ў кастрычніку 1993 г.

**Паміж уладамі горада Беластока і прадстаўнікамі беларускіх арганізацый** вядуцца перамовы наконт будынка пры вул. Варшаўскай 11, якім карыстаецца БГКТ. Улады прапануюць дэкамуналізаваць будынак і перадаць яго на патрэбы беларускага асяроддзя.

**Прэс-канферэнцыю** наконт будынка пры вул. Варшаўскай 11 і азарту вакол яго склікаў старшыня беластоцкай Гарадской рады **Ян Хайноўскі.** „Стварэнне ў гэтым памяшканні зародка Беларускага культурнага цэнтра, які мы раілі заснаваць прадстаўнікам беларускай меншасці, дазволіла б хадайнічаць за атрыманнем міністэрскай датацыі на дзейнасць. Адначасна былі б прадухілены канфлікты ўнутры самой беларускай грамадскасці". Намеснік старшыні Гарадской рады **Вальдэмар Паўлоўскі** палічыў, што ўзнікшую вакол гэтай справы атмасферу нехта хоча выкарыстоўваць для дэстабілізацыі палітычнай сітуацыі ў краіне, што можа адмоўна паўплываць на працэс уваходу Польшчы ў структуры НАТО.

**У памяшканні Беларускага музея ў Гайнаўцы** неўзабаве будзе адкрыта кіно. У пачатку года адна з амерыканскіх дыстрыбутыўных фірмаў выступіла да ўлад горада з афертай адкрыць сучаснае кіно. Фірма прад'яўляе самае навейшае тэхнічнае абсталяванне і цікавы рэпертуар узамен за ўдзел у прыбытку з продажу білетаў. Улады горада і Беларускі музей прыхільна паставіліся да ідэі стварэння студыйнага кінатэатра на 100 чалавек. Гарадская управа прызначыла ўжо 15 тысяч злотых на прыстасаванне залы для прыняцця першых аматараў кіно. Такім чынам у Гайнаўцы ўзновіць дзейнасць кіно, якое працавала ў горадзе ў 1928—1989 гадах.

**Тэатр-вар'етэ „Сэрж" з Менска** ужо другі раз наведаў Беласток і зараз паказвае рэвю ў гасцініцы „Крысталь". Уладальніца вар'етэ **Таццяна Бандарчук**, былая акрабатка Маскоўскага цырка, тры гады таму заснавала свой калектыў і аб'ехала з ім між іншым Нямеччыну, Францыю, Італію, Сірыю, Турцыю і Туніс.

**Кожнаму 4—5 жыхару Беласточчыны** пагражае ўздзеянне звышнарматыўнага шуму вышэй 60 дэцыбелаў, сцвярджае апошні рапарт „Стан асяроддзя ў Польшчы". Паводле гэтай распрацоўкі Беласточчына — самае шумнае ваяводства ва ўсходняй частцы краіны, у якім пераважае шум камунікацыйны. У самім Беластоку найшумней на вуліцы Ліповай.

**Ваяводскі архітэкт Генрык Тачыдлоўскі** плануе правесці сімуляцыю выключэння вуліцы Ліповай у Беластоку з камунікацыйнага руху, каб пераканацца, ці ў будучым магчымым будзе зрабіць у гэтым месцы „дэптак" — месца прагулак у горадзе. Падчас акцыі на працягу некалькіх дзён на гэтай вуліцы будзе спынены рух аўтамабіляў.

**Беластоцкая паліцыя** паспяхова змагаецца з самагонаварэннем. Нядаўна ў лесе паблізу Чорнай-Беластоцкай супрацоўнікі раённай камендатуры выявілі дзве самагоначныя ўстаноўкі, рэквізавалі тры тысячы літраў брагі і затрымалі самагоншчыка — 42-гадовага жыхара Беластока.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Нідэрланды ў Гарадку.
- Сітуацыя нацыянальных меншасцей у Польшчы.
- Лёс вясковых артыстаў.
- Народнае мастацтва Беласточчыны.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Расце экспарт

За мінулы год знешні гандлёвы абарот Беларусі склаў 1 млрд. 769 млн. 200 тыс. долараў ЗША. Дасягнуты істотны прырост экспарту — рэалізацыі тавараў за свабодна канверсуемыя валюты. Пры гэтым становучае сальда ў знешнім гандлі дасягнула 357,6 млн. долараў. Прыярытэтнымі з'яўляюцца сувязі з Расеяй, краінамі СНД, Кітаем. Усходні вектар эфектыўна дапаўняюць кантакты з Нямеччынай, ЗША, Польшчай і дзяржавамі Прыбалтыкі.

## Лонданскі візіт

Старшыня Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" Зянон Пазьняк па запрашэнню брытанскага ўрада пабываў у Лондане. Падчас гэтага афіцыйнага візіту кіраўнік парламенцкай апазіцыі сустрэўся з лідэрамі вядучых партый Вялікабрытаніі, парламентарыямі, урадавымі дзеячамі, а таксама з прадстаўнікамі беларускай эміграцыі.

## Камісія не зрабіла вывадаў

2 лютага г.г. на пасяджэнні Вярхоўнага Савета выступіў Анатоль Новікаў — старшыня камісіі па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю, якой было даручана праверыць факты, выкладзеныя на папярэдняй сесіі дэпутатам Сяргеем Антончыкам у дакладзе аб карупцыі. Анатоль Новікаў заявіў, што яго інфармацыя мае прамежкавы характар, паколькі праверка поўнасцю не завершана. У сувязі з гэтым камісія не зрабіла ніякіх вывадаў, але толькі паведаміла аб праведзенай рабоце. Старшыня звярнуўся з просьбай, каб у далейшым расследаванні дапамогу парламенцкай камісіі аказалі Кантрольная палата і Нацыянальны банк. Прапанова, каб у „Народнай газеце" надрукаваць стэнаграму даклада Сяргея Антончыка і інфармацыю Анатоля Новікава, не знайшла падтрымкі дэпутатаў.

## Фільм з Шалкевічам

Прэм'ера мастацка-публіцыстычнага фільма „Слёзы блуднага сына", створанага на студыі „Спадар Д." маладым кінарэжысёрам Віктарам Асюком пры ўдзеле акцёра Гродзенскага тэатра лялек Віктара Шалкевіча, прайшла нядаўна ў сталічным Доме ветэранаў. Гэтая стужка — спроба даследаваць сродкамі дакументальнага і мастацкага кіно праблему ўздзеяння мінулых войнаў на характар беларусаў.

## Адраджаецца батлейка

Старажытная батлейка, дзякуючы вялікай аматарцы і гарачай паклонніцы народнай даўніны, настаўніцы Маргарыце Катовіч, адраджаецца ў Полацку. Юныя артысты са школы-інтэрната выступалі перад сваімі равеснікамі і пабывалі ў многіх дзіцячых дашкольных установах гэтага горада.

## Свае героі

У старажытным Навагрудку вырас новы мікрараён „Паўднёвы захад". У назвах яго вуліц увекавечана памяць пра вядомых людзей Беларусі: Францыска Скарыну, Ігнацыя Дамейку, Яхіма Храптовіча, Уладзіслава Сыракомлю, Міхала Агінскага.

## Ад амартызацыі не ўцячы

На 70% зношаны асноўныя фонды Салігорскага аб'яднання „Беларуськалій". Калі раней аб'яднанне купляла за год да 15 горназдабываючых камбайнаў і да 20 комплексаў, то цяпер новая тэхніка пастаўляецца паштучна. Каб аднавіць тэхнічны парк, „Беларуськалію" спатрэбіцца 50 млн. долараў. А іх няма, бо асноўная частка сродкаў ідзе на зарплату і дывідэнды.

## Гінуць беларускія хлопцы

Гора чачэнскай вайны пастукалася адразу ў два дамы на Магілёўшчыне. Загінулі: 42-гадовы палкоўнік, ураджэнец вёскі Каледнявічы Дрыбінскага раёна, Пётр Піскажаў і 24-гадовы лейтэнант Сяргей Касмачоў з вёскі Заполле, што на Мсціслаўшчыне. Абодва — сялянскія хлопцы, якія паканчылі ваенныя вучылішчы ў Расеі, засталіся служыць у расейскай арміі і ў канцы трапілі на чачэнскую вайну.

## Хітры корм

Студзеньскія маразы не перашкодзілі працаўнікам калгаса „Зара камунізму" Іванаўскага раёна заняцца нарыхтоўкай сенажу для грамадскага статка. У якасці асноўнага кампанента выкарыстоўваецца звычайны чарот, што расце на берагах мясцовага возера. Скошаную агрэгатам масу пасля здрабнення перамешваюць з соладам, аржаной мукой, соллю і закладваюць у бетанаваныя траншэі. Такога корму назапашана некалькі дзесяткаў тон.

## Масленая кантрабанда

На жаль, не толькі сметанковае масла ўсё часцей становіцца аб'ектам масавага вывазу ў Расею. Як паказала праверка аўтобусаў, якія з Любані накіроўваліся ў суседнюю краіну, вывозіцца ўсё, што трапіцца пад рукі. У двух аўтобусах былі выяўлены 82 кг лі392вернай каўбасы, 320 — тварагу, 140 — цыбулі, 117 — вэнджанай і 160 — свежай рыбы, 100 — солі, 90 — крухмалу, 300 — смятаны і 200 — сметанковага масла, а таксама запалкі, дрожджы, воцат і многае іншае. Больш за ўсё здзіўляе, што 200 кг сметанковага масла пасажыры змаглі набыць у той сітуацыі, калі ўсюды яго продаж ажыццяўляецца як быццам бы па картках.



© PDF: Kamunikat.org 2015
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

 

## Лясны „Ноеў каўчэг”

Штораз больш чуваць галасоў трывогі пра нашу Белавежскую пушчу. Давялося мне пабываць на сходзе прыродазнаўцаў у Ольштыне. Вучоныя пратэстуюць супраць высечцы старога лесу у г.зв. загаспадараванай частцы Пушчы. Дамагаюцца яны каб, так як і з беларускага боку, цэлы абшар Пушчы аб’явіць нацыянальным паркам. Леснікі прытрымоўваюцца іншага пункту гледжання. Аднак Белавежская пушча з’яўляецца найцэннейшым і найпрыгажэйшым лясным комплексам ува ўсёй нізіннай Еўропе. У 1977 годзе ЮНЕСКА прызнала Белавежскі нацыянальны парк запаведнікам біясферы, які два гады пазней занесена ў Сусветны спісак чалавечага наследства. Парк ахоплівае плошчу 5348 гектараў і складаецца са Строгага запаведніка прыроды (4747 га), ахоўнай зоны (279 га), Палацовага парку (49 га) і Асяродка гадоўлі зуброў. Строгі запаведнік прыроды характарызуецца вялікім багаццем флоры і фауны. Ён выключаны з усялякай гаспадарчай дзейнасці як апырскванне, высечка дрэў ці збіранне грыбоў і ягад.

Сімвалам Белавежскай пушчы з’яўляецца зубр; у 1993 годзе налічвалася іх 230 штук. Дзесяткі гадоў даследаванняў спецыялістаў-прыродазнаўцаў выявілі вялікае багацце гэтага абшару. Выкрыта тут 990 відаў дрэў, кустоў, былін і папаратнікаў. Выступае таксама 308 відаў мохападобных і пячоначнікаў, каля 210 відаў лішайнікаў ды больш за 1000 відаў грыбоў. Сярод іх ёсць многа рэдкіх рэліктаў першабытнага лесу, якія не сустракаюцца нідзе больш у Еўропе. Асабліва многа тут лішайнікаў і грыбоў, якія жывуць на спарахнелым дрэве. Вучоныя выдзелілі 106 раслінных комплексаў, а з іх ліку 25 гэта комплексы прыродныя. Найбольш тут грудоў з многаступенчатай структурай. Найвышэйшы ярус ствараюць елкі, далей ідуць кароны дубоў, ліп, клёнаў і малодшых елак; найніжэйшы слой, гэта грабы і маладняк апошніх відаў дрэў. Дубы вырастаюць да 41 метра, ліпы і ясені — да 43 м, а елкі нават да 52 метраў. На польскім баку Пушчы зарэгістравана каля 2100 дрэў-помнікаў; найчасцей з’яўляюцца імі дубы, ліпы, ясені і клёны. Сярод гэтага багацця раслін пражывае і мноства звярыны. Ацэньваецца, што ў Пушчы жыве яе каля 10 тысяч відаў, у тым ліку каля 8,5 тысячы насякомых. Апрача спомненага зубра, з буйнай звярыны жывуць тут яшчэ лосі, дзікі, алені і казулі. З драпежнікаў выводзяцца тут рысі, ваўкі і выдры. Сцверджана пражыванне 12 відаў кажаноў, а таксама адзінага ў Польшчы віду буразубкі. Увогуле ў пушчы спатыкаецца 62 віды млекакормячых і 154 віды птушак. З апошніх выкрыта тут 14 відаў драпежных, 5 — курападобных, 8 — соў і 9 відаў дзятлаў. Асабліва каштоўным з’яўляецца тое, што захаваліся тут тыповыя для нізінных лясоў птушкі такія як чорны бусел (34 пары), падворлік малы (68 пар) і іншыя. Выкрыта таксама прысутнасць 19 відаў паўзуноў і земнаводных, сярод іх балотную чарапаху і мядзянку. Не да канца яшчэ вывучаныя беспазваночныя. Паводле прыродазнаўцаў Белавежскі нацыянальны парк, які ахоплівае апошнюю прыродную экасістэму ў нізіннай Еўропе, намнога замалы, чым вымагаецца для такога тыпу біяцэнозаў, што не гарантуе далейшай экзістэнцыі многіх гатункаў флоры і фауны, напр. рысь вымагае для сябе плошчы ад 10 да 20 тыс. гектараў. Можа дайсці да таго, што вялікае багацце відаў і формаў жыцця не датрывае да наступных пакаленняў. А так станецца, калі ў Пушчы надалей будзе дзейнічаць лясная гаспадарка. Нельга дапусціць да таго, каб загінула наша Белавежская пушча.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Беларускі саюз дзейнічае!

З пачаткам новага года ажывілася актыўнасць Беларускага саюза. 1 лютага г.г. у памяшканні філіяла Варшаўскага універсітэта адбыўся чарговы сход гэтай арганізацыі. Пасля кароткай справаздачы з дзейнасці БС у мінулым, удзельнікі ўзяліся вырашаць арганізацыйныя справы. Скарбнікам выбралі старшыню БДА Пятра Крука, а з выбарам сакратара пакуль што ўстрымаліся.

Амаль аднагалосна (галасавала ўсяго 9 на 11 дэлегатаў) удзельнікі выбралі рэвізійную камісію. Старшынёй яе стаў Веслаў Харужы. У камісію ўвайшлі яшчэ Пятро Астасевіч і Марк Дажынка.

Самым важным пунктам сходу была дыскусія над галоўнымі напрамкамі дзейнасці БС у 1995 годзе. Вось яны:

1) Дамагацца стварэння беларускага інстытута культуры ў Беластоку як навуковага цэнтра.

2) Сачыць за справай беларускай перадачы ў рэгіянальным тэлебачанні, якое неўзабаве мае паўстаць у Беластоку. У сувязі з гэтай ініцыятывай БС ужо накіраваў пісьмы старшыні Управы радыёвяшчання і тэлебачання Веславу Валендзяку і старшыні Краёвай рады Янушу Заорскаму.

3) Стварыць камісію, якая вывучыла б стан беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

4) Наладзіць кантакты з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

5) Аказваць падтрымку беларускаму школьніцтву на Беласточчыне.

6) Патрабаваць устанавіць прадстаўніка беларускай меншасці пры беластоцкім ваяводзе.

7) Устанавіць прадстаўніка беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

8) Падтрымаць Праваслаўную царкву ў змаганні за Супрасльскі манастыр.

9) Аказаць падтрымку самаўрадам.

10) Заснаваць фонд беларускай культуры.

Дзеля рэалізацыі намечаных напрамкаў дзейнасці плануецца стварыць камісіі: асветную, навукова-культурную і гаспадарча-дэмаграфічную.

Сярод бягучых спраў на сходзе разглядалася сітуацыя памяшкання БГКТ пры вул. Варшаўскай 11. Беларускі саюз аднагалосна рашыў даць падтрымку гэтай справе. У сувязі з гэтым накіраваў таксама пісьмо беластоцкаму ваяводу. Дэлегаты разгледзелі таксама прашэнне аб прыняцці ў БС „Хаткі” (беларускага аб’яднання ў Гданьску).

Старшыня БС Яўген Вапа ўспомніў таксама, што ўжо ў снежні 1994 года БС накіраваў ліст міністру культуры РБ Анатолю Бутэвічу з просьбай дапамагчы ў арганізацыі „Басовішча”, „Бардаўскай восені” і экскурсіі моладзі „Шляхам замкаў”.

З вялікім зацікаўленнем удзельнікі сходу, а асабліва студэнты, праслухалі пісьмовы адказ рэктара Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку пра немагчымасць змен у праграме беларускай філалогіі. Традыцыйна тлумачылася гэта недахопам самастойных навуковых кадраў. Усім вядома, што ў гэтай справе перш за ўсё патрэбна добрая воля. Існуюць жа ў ВНУ аддзяленні, дзе на факультэце працуе толькі адзін самастойны працаўнік. Удзельнікі схода вырашылі накіраваць свой пратэст у Міністэрства нацыянальнай адукацыі, рэктару ВУ і ў Хельсінскі камітэт.

Пры нагодзе гаварылася таксама пра арганізацыю навучання беларускай мовы ў IV беластоцкім ліцэі. Заняткі маюць пачацца ад новага семестра.

БС адобрыў прапанову аб’яднання „Беласточчына” (арганізацыя беларускіх студэнтаў з Польшчы ў РБ). Звярнуліся яны з просьбай „тэарэтычнай падтрымкі” ў адкрыцці культурнага прадстаўніцтва ў Беластоку. Дзякуючы іх старанням, у Беласток маглі б часта прыязджаць на гастролі эстрадна-цыркавыя калектывы на высокім узроўні. „Гэта не будуць лапці і не калхоз”, — тлумачылі ініцыятары ўдзельнікам сходу.

Так менавіта, з размахам, пачаўся новы год дзейнасці БС. Добрае ўражанне выклікала шматлікая прысутнасць моладзі і інтэлектуалаў. Наступны сход прадбачаны праз два месяцы.

**Г. К.**

## Радныя Гайнаўкі размеркавалі грошы

Горад, такі як Гайнаўка, на сваё функцыяніраванне патрабуе звыш 40 мільярдаў злотых (старых). Канкрэтна ў Гайнаўцы 30% гэтай сумы адводзіцца на прадшколлі. А вось іншыя важнейшыя выдаткі: камунальная гаспадарка (25%), адміністрацыя (14%), культура (9%), сацыяльная апека (3,4%), фізічная культура (3%). Калі ўлічыць, што ўвесь бюджэт састаўляе суму мала большую за 50 мільярдаў, дык на інвестыцыі застаецца няцэлыя 20%.

Галоўным пунктам VIII сесіі Гарадской рады Гайнаўкі, якая праходзіла 2 лютага, было прыняццё бюджэту на бягучы год. У сітуацыі, калі вядома, што ўсім ахвотным грошай і так не хопіць, дыскусія, галоўным чынам, зводзілася да таго, каму даць, а каму забраць. Камісія гаспадарчага развіцця горада найбольшую ашчаднасць прапанавала ў прадшколлях — зменшыць іх дафінансаванне на 650 мільёнаў. Радны Сачко запрапанаваў, каб прадшколлі, за плыкладам школ, праводзілі меншыя рамонты грамадскім пачынам, з удзелам бацькоў. Бурмістр Ядвіга Рудзінская-Патэюк даказвала, што гэтыя асветныя установы і так атрымліваюць самы неабходны мінімум. У эфекце датацыя да прадшколляў зменшылася, але толькі на 100 мільёнаў, якія будуць выкарыстаны Гарадской бібліятэкай на пакупку новых кніжак.

Дырэктар бібліятэкі, пані Якубовіч, гаворачы пра цяжкае эканамічнае становішча сваёй установы, параўнала яе бюджэт з бюджэтам Гайнаўскага дома культуры, які аказаўся большым. Радны Бушко — і адначасна дырэктар ГДК — сказаў, што атрымліваецца ўражанне быццам гарадскі бюджэт твардыўся паводле прынцыпу: „дзялі і ўпраўляй”. Ёсць установы, якія заўсёды атрымліваюць колькі трэба, як Гарадская ўправа ці прадшколлі, і ўстановы, якім заўсёды даецца замала — школы, бібліятэкі, дамы культуры — каб жэрліся між сабой за нейкія мізэрныя аб’едкі. Прапанова раднага Сачко, каб яшчэ раз дакладна, у камісіях, прыглядзецца ўсім пунктам бюджэту і адкласці яго прыняццё, упала.

Рада вырашыла, што ўжо ўсё дастаткова абмеркаванае і прыняла бюджэт Гайнаўкі на гэты год. Плануецца, што горад выпрацуе 53 мільярды 115 мільёнаў 440 тысяч даходу, а выдаткуе 54 мільярды 415 мільёнаў 440 тысяч. Недахоп — 1 мільярд 300 мільёнаў — будзе пакрыты з мінулагодняга бюджэту, які неспадзявана папоўніўся пад сам канец года ў выніку продажу камунальных кватэр (ліквідацыя жыллёвых кааператыўных кніжачак).

Пані бурмістр, як ужо раней гаварыла „Ніве”, падтрымлівае ініцыятыву жыхароў. Таму ў бюджэце 1 мільярд 700 мільёнаў адводзіцца на грамадскія пачыны. З дапамогай Гарадской управы ўзнікла Агенцтва жыллёвых ініцыятыў, якое будзе займацца пабудовай г.зв. „шэраговых” будынкаў. Пасля паўгода агенцтва павінна на сябе зарабляць.

**М. В.**

## НАЙБОЛЬШ ЗДЗІЎЛЯЮЦЦА САМІ БЕЛАРУСЫ

*Працяг са стар. 1*

сем’яў. На перадбюджэтнай сустрэчы з жыхарамі найчасцей усплывала справа вуліц, пабудовы новых і паляпшэння існуючых. Чакаюць нас як рамонты паверхні вуліц, так і падрыхтоўка ўчасткаў каля іх пад індывідуальную забудову.

*— А як выглядае сітуацыя ў прадпрыемстве перапрацоўкі лёну, г.зв. „рашарні” і ў „Вітаміне”?*

— Фірма з Лодзі, „Linenpol” ахвотна нават купіла б нашу „рашарню”, але іх цікавіць паўтары тысячы гектараў закантрактаванага лёну. Пагадзіліся б яны пэўна і на тысячу, але на сёння ёсць усяго 170 гектараў. У гэтай справе супрацоўнічаем мы і з Бельскай гмінай, і з іншымі навакольнымі, і з раённай управай. Мы зацікаўлены, каб пусціць „рашарню” ў рух, бо хаця з’яўляецца яна ўласнасцю ваяводы, то працу ў ёй атрымалі б дзве сотні жыхароў Бельска. У „Вітаміне” страшэнны доўг, які абмяжоўвае магчымасці эфектных вырашэнняў. Мы яшчэ да яе не дакраналіся, але неўзабаве трэба будзе прыглянуцца іхнім праблемам і шукаць развязкі.

*— Ці суадносіны між горадам і Бельскай гмінай добрыя?*

— Някепскія. Калі ўзнікаюць справы, якія трэба вырашыць, я кантактуюся з войтам і наогул удаецца нам супольна знайсці нейкую развязку. Але ёсць і спрэчныя пытанні, як хаця б тэрытарыяльная прыналежнасць ПОМа. Цяпер ПОМ — уласнасць гміны — на тэрыторыі горада і плаціць нам падаткі. Войт хоча перасунуць мяжу між горадам і гмінай так, каб ПОМ апынуўся вонкі горада. Для нас гэта, зразумела, некарысна.

*— Табе, як галаве горада, даводзіцца бываць на розных мерапрыемствах. Часта прамаўляеш па-беларуску. Якую рэакцыю гэта выклікае?*

— Найчасцей здзіўляюцца самі беларусы, што прадстаўнік улад гаворыць на беларускай мове. Як жа так, ніколі раней чагосьці такога не было! Нават пайшла пагаласка, што адклікаюць мяне таму, што на юбілеі „Васілёчкаў” прамаўляў я па-беларуску. Хачу сказаць, што для мяне выступленні па-беларуску на беларускіх мерапрыемствах нармальныя. Гэта не праява ніякага там нацыяналізму ці шавінізму. Зрэшты, калі трэба, я ўмею прамаўляць і па-польску.

*— Несумненна. Я быў сведкам размовы працаўніц Бельскага дома культуры пасля Твайго інаўгурацыйнага спаткання з працаўнікамі магістрата. Яны меркавалі нават, што Ты вучыўся ў нейкай тэатральнай школе. Але давай пагаворым пра гэтае адкліканне.*

— Напэўна гэта не вельмі прыемна, тым больш, што аб маім адкліканні гавораць ужо ад даволі доўгага часу. А беластоцкая прэса трубіць нават пра найменш верагодныя спекуляцыі. Аднак я не панікую, працай стараюся паказаць сваю прыдатнасць на гэтай пасадзе.

*— Лічыш гэта элементам палітычнай гульні?*

— Так. Прычым паслядоўнасці могуць быць двухбаковыя. У маіх руках таксама ёсць пэўныя магчымасці, якімі я магу пакарыстацца.

*— Дзякуй за размову. Чаго жадаць Табе на бліжэйшы час?*

— Каб усе праблемы, пра якія я тут гаварыў, вырашыліся ўжо ў гэтай кадэнцыі.

**Гутарыў**
**Мікола Ваўранюк**
**Фота Юркі Каліны**



 

# Не любяць TV Беларусь

Тэлебачанне займае ў нашым жыцці пачэснае месца. У гады ПНР было яно для ўлады інструментам фармавання грамадскай думкі і настрою. Мы бачылі адзінае афіцыйнае тэлебачанне. І хоць эфір перасякалі хвалі ўсякіх замежных станцый — былі яны для нас недаступнымі. Улада дбала, каб мы не прасякнуліся варожай ідэалогіяй, ці проста іншым за сацыялістычны стылем жыцця. Сёння, быццам можам ужо ўдоваль налюбавацца ўсякім тэлебачаннем, маючы, напрыклад, 15—20 станцыяў на г.зв. „кабелі". Але пажадлівасць вакол яго кантролю не заціхла. І слушна, бо свет, які мы бачым, паходзіць у вялікай меры са шклянога экрана.

Сама прылада — тэлевізар — з'яўляецца ці не найважнейшай мэбляй у хатнім гаспадарстве. Займае яна амаль заўсёды цэнтральнае месца ў рэпрэзентацыйным пакоі кватэры. Найбольшы аднак феномен заключаецца ў той нязменнай здольнасці гуртавання людзей вакол тэлевізара. „Уключай, хай праўду скажуць". І тэлевізар гаворыць, вясяліць, тлумачыць, запалохвае, набываючы гэтым самым значэнне нейкага татэма ў нашым жыцці.

Свабода — гэта права чалавека на выбар. Права кожнай адзінкі. І вось пару гадоў таму ў беластоцкім квартале „Новае места" (Nowe Miasto) жылёвы кааператыў „Элеменцік" (Elementcik) аддаваў ва ўжытак новыя блёкі. Людзі пакупляпі сабе кватэры, правялі тэлефоны, шмат чаго іншага паабсталёўвалі — трэба зажыць. Сфармавалася таксама рада жыхароў, якая пажадала сабе, каб у кабельнай тэлесетцы квартала знайшлося месца для беларускага тэлебачання. Тэлевізары, якія маем, у змозе прыняць да сарака станцый — хочам, каб адзін канал быў адведзены беларускаму тэлебачанню. Гэтак аргументавала жменька беларусаў, якая пасялілася ў тым жа квартале. Пярэчыць ніхто не стаў, прапанову падтрымалі таксама палякі. Кіраўніцтва кааператыва крышку пакруціла носам, маўляў, усё гэта не так проста, сігнал з гродзенскага перадатчыка якасна не найлепшы. Гэтак і закончылася. Пастанова ажыццявілася летам мінулага года. Жыхары „Новага места" маглі глядзець беларускае тэлебачанне на трэцім канале. Якаснасцю прыёму праграма гэтая не дасягала ўзроўню, скажам, першай праграмы польскага тэлебачання, але глядзець яе можна было і вочы ад гэтага ніколі не пяклі.

Пасля паўгадовага перыяду прыёму, у другой палове студзеня гэтага года, беларускае тэлебачанне ў квартале „Новае места" заціхла. Момант гэты папярэдзіла два — тры дні эфірных шумаў і трэскаў.

— Адключэнне беларускага тэлебачання ў ніякім выпадку не з'яўляецца праявай непрыхільнасці кааператыва да беларускай меншасці, — паведаміў намеснік старшыні ўправы „Элеменціка" **Лех Прушынскі**. — З'яўляецца яно вынікам тэхнічных абумоўленасцяў.

*— Якія гэта абумоўленасці?*

— Закон аб радыёвяшчанні і тэлебачанні ад 1 сакавіка 1993 г., — сказаў тэхнічны ахоўнік тэлесеткі квартала „Новае места" **Марыян Васілеўскі**, — выразна гаворыць пра звальненне каналаў 1-5 для радыё. Гродна транслюе сваю праграму на 3 канале, у сувязі з чым няма магчымасці яго прыёму тут. Да таго, гродзенскі сігнал слабы — якасна ён ніжэй таго стандарту, які абавязвае ў Польшчы і Еўропе. Немагчыма гарантаваць чыстату прыёму, бо дойдзе тут яшчэ інтэрферэнцыя з радыёстанцыямі. Да канца года ўсе кааператывы абавязаны дастасаваць сігнал у тэлесетках да патрабаванняў польскай нормы. У іншым выпадку пагражаюць штрафы з боку Дзяржаўнага радыёкамунікацыйнага агенцтва (Państwowa Agencja Radiokomunikacyjna, PAR), а нават і закрыццё тэлесеткі ў квартале.

Паўгадовы перыяд прыёму праграмы з Гродна, — дадаў Лех Прушынскі, — быў нелегальшчынай.

*— Якім чынам, у такім выпадку, можна забяспечыць беларусу прыём тэлебачання ў яго роднай мове?*

— У святле згаданага тут закона гэта немагчымае, — сказаў Лех Прушынскі. — Беларусь павінна перабудаваць сваё тэлебачанне і трансляваць праграмы ў вышэйшых частотнасцях, вышэй пятага канала. Іншае выйсце такое, што карыстальнік тэлесеткі працягне ад антэны на блёку дадатковы кабель і незалежна падключыць сабе гэтае тэлебачанне. Кааператыў можа тут дапамагчы тэхнічнай кансультацыяй, а кошт усяго мерапрыемства заключыцца сумай 300-500 тысяч старых злотых. Якаснасці прыёму кааператыў гарантаваць не можа.

У гэтым месцы можна было б паставіць кропку: беларусы, шыш вы ўбачыце, а не беларускае тэлебачанне ў Беластоку! Цікава было аднак пачуць, што скажа ў гэтай справе прадстаўнік PAR — агенцтва, якое займаецца гаспадаркай частотнасцямі, змаганнем з усякага роду шумамі ў эфіры, а таксама выдачай дазволаў на працу радыёапаратуры.

**Багдан Май**, дырэктар акруговай управы Дзяржаўнага радыёкамунікацыйнага агенцтва ў Беластоку:

— Фактычна, каналы 1-5 павінны быць зволнены для радыёслужб. Тэлебачанне не павінна імі карыстацца — усе станцыі ў Польшчы выключыліся з гэтага дыяпазону. У нашым рэгіёне на 5 канале транслявалі Сувалкі. Агенцтва, трэба гэта выразна адзначыць, займаецца аховай краёвых станцый, а не замежных. У сувязі з гэтым беларускае тэлебачанне, якое транслюецца з Гродна на 3 канале надалей можна прымаць — **няма дзеля гэтага ніякіх фармальных перашкод**. Якасныя патрабаванні датычаць краёвых станцый. Для прыёму беларускай праграмы з гродзенскага перадатчыка патрабуецца адно тэхнічнае мерапрыемства: сігнал з Гродна трэба прыняць (на 3 канале), правесці яго канверсію ў вышэйшую частотнасць, а затым пасланы да гледача, прыкладна, на канале 26. Дзеля гэтага патрэбная адпаведная апаратура, якую кабельныя тэлесеткі ў кварталах маюць або павінны мець — яны ж у змозе прыняць сігнал з сатэліта на адным канале, а гледачу пасланы яго на іншым. Гэтак жа трэба зрабіць і з беларускай праграмай.

Ну вось, крышку парадку ў гэтым эфірным хаосе. Значыць, можна і не надта складана — можна сказаць, што нармальна, нічога надзвычайнага не патрабуецца. Здзіўляе аднак тая сцяна перашкод, якую ставіца ў Беластоку для прыёму ў кабельных тэлесетках беларускага тэлебачання. Справа гэтая датычыць шматлікіх кварталаў, усюды затуманьваюць людзей тэхнічнымі дэталямі, кажуць плаціць за дадатковыя антэны, кабелі ды шмат што іншае. Інакш кажучы, шлюць кліентаў нахер. **А ўсё ж мы плацім за тэлебачанне і патрабуем павагі, калі не да нас саміх, дык да нашых грошай.** Дзе ж тут нейкая рацыянальная прычына? Беларусь не з'яўляецца ўжо камуністычнай дзяржавай, прынамсі фармальна. У сувязі з гэтым не распаўсюджвае яна ненавіснай палякам ідэалогіі. Вядома, можа крышку нерваваць людзей беларуская мова — яна часамі і самога беларуса знервуе. Заўсёды, аднак, можна сабе ўявіць, што спікеры беларускага TV гавораць лацінкай, а не кірыліцай. Цікава, што нямецкая мова нікому не перашкаджае, а нямецкіх станцый пераважна большыня ў кабельных тэлесетках.

Пытанне да Радыё Ерэван: Праўда, што ў любым квартале Беластока можна глядзець беларускае тэлебачанне?

Радыё Ерэван адказвае: Да, это верно, но не совсем...

**Аляксандр Максімюк**




### БАНДА ЦІ АТРАД?

У сваёй адгалосцы хачу толькі папоўніць „Расказ дзеда Хмяля з Вітава" з 5-га н-ра „Нівы" ад 29 студзеня г.г., у якім гаворыцца пра партызанаў „Скамароха" — Германа Шыманюка родам з Грабаўца. Нябожчык У. Хмель, якога я ведаў асабіста як сябру майго бацькі, праўду расказаў, пазабываў толькі некаторыя прозвішчы. Напісана: „Як Маркоўскі Іван жаніўся з Нюркай, дачкой Баніфацавых (іх прозвішча ўжо не памятаю) з Грабаўца, дык паехалі туды на вяселле". Прозвішча Баніфацавых было Трафімюк. Далей напісана: „З Дубіч у бандзе быў Тарасаў сын Тарас (прозвішча не памятаю) меў галаву... „Дзе ваш сын?" — пытаецца яго паліцыя. Ён нібыта нічога не ведае: „У бандзіты пайшоў? Сам зарубаю". Дык вось маё папаўненне: прозвішча Тараса было Тамашук (калісь я пра яго пісаў у „Ніву"), а сын, які быў у бандзе, называўся Андрэй. І тут дзед Хмель крыху паблытаў факты, бо ў сапраўднасці Тарас першым цярпеў катаванні і здзекі паліцыі. Яго мучылі, калі вынюхалі, што сын у бандзе, прыкладаючы да пятаў распаленыя камяні. І стары не вытрымаў і павёў паліцыю ў зямлянку ў Белавежскую пушчу, дзе знаходзілася банда, але тыя ўспелі ўцячы. Тарас меў таксама і другога (меў іх і больш) сына — Васіля. У расказе ўспамінаецца пра нейкага Васіля Тамашука, але гэта напэўна пра іншага, не пра Тарасавага сына, бо той быў замалады і да атрада „Скамароха" не належаў. Жыў ён у Сібіры, а памёр недзе ў 60-я гады ў Варшаве. Дзед Хмель слушна назваў атрад „Скамароха" бандай. Бо тое, што яны недзе забілі нейкага гаёвага ці разбілі пастарунак у Кляшчэлях — гэта не геройскі пачын, але бандыцкі. Маленькі атрад не змог павярнуць кола гісторыі; як кажуць: „супраць ветру не падусш". Сын Тараса, Андрэй Тамашук, перад сваім расстрэлам напісаў развітальны ліст да бацькоў, у якім ён асудзіў свой пачын як бандыцкі. Пісаў, што шкадуе таго, што рабіў у атрадзе і што трэба жыць у любві і пашане да бліжняга. Я таксама шкадую таго, што калісьці па беластоцкаму радыё прапанаваў назваць адну з вуліц у Дубічах-Царкоўных у гонар камандзіра гэтага атрада, „Скамароха" — Германа Шыманюка. Добра, што сталася іначай і трэба заўсёды мець на ўвазе прымаўку: „паспяшыш — насмяшыш". Дасведчыў я гэтага ўжо не раз на сабе і на карысць мне гэта не пайшло.

**Мікалай Панфілюк**

# Культурны цэнтр на Варшаўскай?!

Ад некалькіх месяцаў беластоцкая прэса піша пра праблемы з будынкам пры вул. Варшаўскай 11, які з'яўляецца сядзібай Галоўнага праўлення БГКТ. Апошнім часам справай пацікавіліся цэнтральныя сродкі масавай інфармацыі. Згаданы будынак і яго кватарантаў пару разоў ужо паказалі па беларускім і польскім тэлебачаннях, і не ў абы-якіх праграмах, а толькі ў галоўных інфармацыйных паведамленнях. Лакальны скандал пачаў пераўтварацца ў фактар, які можа паўплываць на польска-беларускія адносіны, тым больш, што прэса ў Беларусі піша пра гэтую праблему ў вельмі драматычнай форме. Пры нагодзе варта адзначыць, што ў польскім друку толькі ў такім тоне пісалася пра сітуацыю палякаў на Гродзеншчыне.

Выглядае на тое, што ў апошніх днях справа яшчэ больш ускладнілася, хаця ўлады горада Беластока прадставілі беларускім арганізацыям вельмі цікавыя прапановы. Падчас сустрэчы прадстаўнікоў Управы горада і беларускіх арганізацый 3 лютага 1995 г. у магістрацe гаспадары нечакана запрапанавалі новыя вырашэнні. Улады горада згодны аддаць у карыстанне будынак на Варшаўскай 11 усім беларускім арганізацыям, ліквідуючы задоўжанасць і адмаўляючыся ад арэнднай платы. Кватаранты мелі б толькі плаціць эксплуатацыйныя кошты — за ваду, ацяпленне, электраэнергію, тэлефон. На базе гэтага будынка, паводле задумы гарадскіх улад, меў бы ўзнікнуць „Беларускі цэнтр культуры", які ў далейшым фінансаваўся б з дзяржаўнага бюджэту. Дзеля гэтага Управа горада і БГКТ мелі б выступіць да ваяводы з прапановай дэкамуналізацыі будынка і пераўтварэння яго ў дзяржаўную маёмасць. Наколькі можна было зразумець са слоў віцэ-прэзідэнта Беластока Марка Казлоўскага, выказаных на хвалях Беластоцкага радыё, да канца 1995 года галоўным карыстальнікам будынка будзе БГКТ.

Для кожнага, хто стаіць з боку гэтай справы, такое вырашэнне можа здавацца лагічным і канструктыўным, бо ў сапраўднасці мае такія прыкметы. Але праблема можа ўзнікнуць у самім беларускім асяроддзі. Стварэнне „Цэнтра" абазначаць будзе, што будынак стане ўласнасцю ўсіх беларускіх арганізацый і выкліча патрэбу ўстанаўлення адміністратара гэтай установы. Старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі вельмі выразна заявіў (Kurier Poranny, nr 31, 7.02.1995 г.), што для ўсіх арганізацый будзе зацеснавата. Звяртае пры тым увагу на ненайлепшае супрацоўніцтва паміж беларускімі арганізацыямі. Старшыня мае рацыю і цяжка было б спадзявацца, каб у такой сітуацыі выказваў ён іншыя погляды. З другога боку трэба памятаць, што нядаўна з будынка пры вул. Варшаўскай 11 без следу прапала электронная тэхніка для друку вартасцю — на сённяшні дзень — каля двух мільярдаў злотых. Польскі ўрад выдаткаваў сродкі на гэтую тэхніку, маючы на ўвазе патрэбы ўсёй беларускай грамадскасці, а не нейкай яе групы. У нашай свядомасці пакуль што няма яшчэ выразна акрэсленага нацыянальнага інтарэсу і, каб пашкодзіць сваім, але іншым, мы гатовы змарнаваць не два, але дзесяткі мільярдаў. Не трэба тады стварань умоў для такіх сітуацый.

Таму лічу, што на Варшаўскай павінна застацца БГКТ, і мець там умовы прадаўжаць сваё найлепшыя традыцыі. З боку іншых арганізацый трэба толькі пажадаць Таварыству, каб колькасць арганізаваных імі мерапрыемстваў у год з 80-ці ўзрасла да 180-ці, з перспектывай на далейшы рост, найлепш да 360-ці ў год.

А Беларускі цэнтр культуры павінен стварацца як штосьці, што адпавядала б такой назве. Цэнтр не мусіць абавязкова асацыявацца з паасобным будынкам. Хопіць некалькі пакойчыкаў, некалькі штатаў, архіў і бібліятэка. Цэнтры культуры паасобных народаў у дыяспары існуюць, каб паказаць свайму насельніцтву і акружаючым нацыям такія інтэлектуальныя дасягненні, якія маглі б быць мостам да сустрэчы культур, поглядаў, партнёрскага дыялогу. Але такі дыялог можа быць магчымы толькі тады, калі ўзровень з абодвух бакоў ёсць прыблізна такі сам. Таму цэнтр культуры гэта перш за ўсё навуковая і выдавецкая дзейнасць. Тое, што робяць Беларускае гістарычнае таварыства, „Белавежа", часткова таксама „Ніва" і „Czasopis", ужо мае прыкметы такой дзейнасць.

Будынак на Варшаўскай у сапраўднасці прыстасаваны для танцаў і спеваў, але няма там умоў для рэалізацыі такіх мэт, якія ўпісваюцца ў сэнс існавання культурных цэнтраў. Патрэбныя там шматмільярдныя інвестыцыі, каб тая „камяніца" мела больш функцыянальны характар.

Праблема аднак застаецца, бо чаму ж на Варшаўскай моладзь з ЗБМ не магла б нам арганізаваць імпрэзу тыпу „Бардаўская восень" ці звычайную дыскатэку? Чаму ж Ян Мордань не мог бы там працаваць са сваім тэатрам, які, здаецца, з браку памяшкання для вядзення рэпетыцый ужо перастаў існаваць? Чаму ж „Белы сон" мае перашкаджаць Стахвюковым суседзям сваімі рэпетыцыямі ў ягонай кватэры? Гэтыя пытанні можна яшчэ пералічваць, але справа вымагае сапраўды вялікай і сур'ёзнай дыскусіі ў беларускім асяроддзі.

**Яўген Міраловіч**

## „Роднае слова" ў Гайнаўцы

12 студзеня г.г. у новай Пачатковай школе н-р 6 у Гайнаўцы сабралася нямала гасцей. Прыехалі яны на чарговы дэкламатарскі конкурс „Роднае слова". У святліцы вітаў іх прыгожы лозунг: „На вас, моладзі, ляжыць павіннасць развіваць далей родную мову. Э. Пашкевіч-Цётка". Прысутных прывітала дырэктар школы Ірэна Кулачэўская. З уводным словам выступіў старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі: „Дарагія ўдзельнікі, настаўнікі, бацькі! Маю гонар прывітаць вас на чарговым аглядзе-конкурсе „Роднае слова" — асаблівым свяце беларускай мовы. Раённы агляд з'яўляецца элімінацыяй да цэнтральнага. Варта сказаць, што ў гэтым годзе на цэнтральным аглядзе ў Бельску-Падляшскім будзе публічнае тэлебачанне. Жадаю ўсім удзельнікам мастацкага выканання, — прадаўжаў Янка Сычэўскі. — Раённы конкурс праводзіцца ў новай школе паводле еўрапейскага стандарту. Настаўнікам і вучням гэтай школы жадаю стандартных суадносін у навуцы роднай мовы незалежна ад нацыянальнасці, культывавання сваёй культуры і рэлігіі незалежна ад веравызнання, глыбока асэнсаванай талерантнасці і пашаны". На заканчэнне старшыня ГП падзякаваў дырэкцыі і асабліва настаўніцы Тамары Грыгарук за падрыхтаванне школы да правядзення конкурсу.

Далейшы ход імпрэзы ўзялі ў свае рукі вучаніцы Гайнаўскага белліцэя Агнешка Нікалаюк і Кася Амельянюк, якія вялі конкурс. Напачатак прадставілі яны конкурсную камісію: старшыня — Тамара Русачык і члены Аляксандр Іванюк і Аляксей Мароз. Затым пачаліся конкурсныя выступленні. Прысутным трэба было моцна прыслухоўвацца дэкламацыям. Хаця была прыгатавана гукаўзмацняльная апаратура, карысталіся ёю, так як і акампанементам, толькі „гаспадары" — вучні „шасцёркі". Дэкламаваліся розныя вершы: жартоўныя (малодшымі ўдзельнікамі) ды дастойныя і патрыятычныя.

У катэгорыі вучняў да V класа (40 удзельнікаў) першае месца заняла Юліта Федарук са школы н-р 6; тры другія месцы занялі Малгажата Карпюк (школа н-р 2), Кася Аўласюк (школа н-р 6) і Іаанна Рушук (школа н-р 2) — усе з Гайнаўкі. Тры трэція месцы занялі Дыяна Яканюк з Нарвы, Агнешка Сачко (школа н-р 6 у Гайнаўцы) ды Анна Раманюк з Новага Корніна; тры вылучэнні атрымалі Багуслава Паскробка з Ласінкі, Анэта Трафімюк з Кленік і Мажэна Нікалаюк з Дубін.

У катэгорыі вучняў VI — VIII класаў (24 удзельнікі) Гран-пры атрымала Эва Аксянцюк са Старога Корніна. Першых месц не прысвоена. Два другія месцы занялі Маніка Браслаўская з Дубін і Эва Акачук са школы н-р 2 у Гайнаўцы; тры трэція месцы — Агнешка Галімская са Старога Корніна, Эвэліна Кучэўская з Нарвы і Бэата Ярмоц з Дубін. Два вылучэнні атрымалі Бажэна Селевановіч з Кляшчэляў і Анна Сурэль са Старога Корніна.

Хачу яшчэ назваць настаўнікаў, якія падрыхтавалі сваіх вучняў да конкурсу. Гэта: Тамара Грыгарук са школы н-р 6 у Гайнаўцы, Аляксандр Сегень і Аліна Якімюк (школа н-р 2 у Гайнаўцы), Васіль Сегень (Стары Корнін), Ніна Куптэль (Новы Корнін), Вера Флёрчык (Кленікі), Ніна Абрамюк (Нарва), Валянціна Смукшта (Кляшчэлі), Янка Карчэўскі (Чыжы), Валянціна Базылюк (Ласінка), Людміла Дзмітрук (Курашава), Ніна Пракапюк (Дубіны) і Надзея Міхальчук (Крывец).

Пасля заканчэння спаборніцтваў папрасіў я ў старшыні конкурснай камісіі Тамары Русачык даць ацэнку гэтага мерапрыемства. „Радуе масавы ўдзел (64 вучні) і сур'ёзны падыход да конкурсу. Шчыра дзякую і нізка кланяюся ўсім настаўнікам, якія паклапаціліся і, не зважаючы на расход свайго часу, падрыхтавалі сваіх вучняў. Дзеля іскры радасці, задавальнення ў вачах дзяцей, імкнення паказацца сярод другіх і пазнаёміцца з новымі сябрамі і сяброўкамі, варта было паклапаціцца. Час гэты напэўна не страчаны. Баліць аднак сэрца, што школы, у якіх працуюць сапраўдныя спецыялісты па беларускай філалогіі, не прыслалі сваіх вучняў. Яны не далі сваім дзецям магчымасці паказаць свае здольнасці. У такіх конкурсах моладзь заўсёды адкрывае сябе, знаходзіць сваё месца сярод равеснікаў. Нікога не было са школы н-р 3 у Гайнаўцы. З Нараўкі, Семяноўкі, Арэшкава, Грабаўца і Дубіч-Царкоўных заяўкі прыслалі, але ніхто не прыехаў. Не ведаю прычын іх адсутнасці".

Узнагароды лаўрэатам падрыхтавалі Галоўнае праўленне БГКТ і Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы.

Найбольшай узнагародай, на маю думку, было выступленне перад гайнаўскай публікай і залічэнне на цэнтральны агляд.

**Міхал Голуб**

## З дзённікаў С. Яновіча

**1991 - 04 - 01.**

(...) Выйшла „Dyskusja", прысвечаная ўкраінізму ў нас (палякі думаюць гэтым аслабіць беларускі рух). Мае, публікаваныя там, адносіны да яго, украінізму, такія: не разбуяе ён! (час ужо не той; гарадызацыя і каюк класічна этнічным арэалам). Скончыцца на ўкраінскай меншасці ў беларускай меншасці; кола ў коле...

**1991 - 04 - 13.**

Важнае інтэрв'ю Геніка Міхановіча ў падвойным нумары, сакавіцкім, часопіса „Plus". Прачытаўшы яго, усё становіцца на сваё месца. Ён болей, чым я, думае катэгорыямі палітыкі. (...)

**1991 - 04 - 21.**

Добра, амаль знакаміта, арганізаваная бельскай Тэрытарыяльнай радай БДА сустрэча з былым прэм'ерам Польшчы Тадэвушам Мазавецкім і яго спадарожнікамі ў паездцы па Беласточчыне (19.30 — 21.30). Гаворка атрымалася сэнсоўнай, у інтэлігентным тэмпе, і палітычна павучальнай. Ініцыятыва выйшла ад беластоцкай Дэмакратычнай уніі, фіналізуючыся цераз Геніка Міхановіча. Незалежна ад яе вынікаў — умацавала пазіцыі БДА ў Бельску і дала паказальны ўрок нашым хлопцам (...).

**1991 - 05 - 28.**

(...) Нямашака супакою і ад „Тыгодніка Падляскага" (чытай: Яўгена Чыквіна). „Sokrat Janowicz — ewangelista" інаўгуруе выбарчую вольнаамерыканку. Самому дзіўна мне, што прачытаў я тое і... не знерваваўся. Ад зразумення, што ў палітыцы немагчымая мараль? Жульніцкая аргументацыя, перайначванне.

**1991 - 06 - 12.**

Скончыў „Пажар у Дужага". Хутка напісалася, за няцэлы тыдзень. І неяк хвацка.

**1991 - 07 - 20.**

(...) Гляджу па равесніках: хто і як набліжаецца да канца свайго жыццёвага шляху. Сумоцце!

**1991 - 07 - 21.**

Праз хвілю збяруся ў Беларускую Рэспубліку, на колькі дзён па справах. І аж дзіўна мне, што няма чаго ўзяць з сабою нечага недазволенага, нейкіх выданняў... (...) У іх усё ўжо ёсць! А не так даўно, бывала, упакоўваў я процьму падпольных друкаў, абдумваючы кантрабанду.

**1991 - 08 - 17.**

Шаснаццатага — на аўдыенцыі ва ўладыкі Савы (9.45—11.00). Ад мяне — дзве тэмы: без праваслаўя няма беларусаў; не прымаю ўдзелу ў выбарчай барацьбе за дэпутацкае месца ў польскім Сойме (прычыны: блага са здароўем і — што важней — трэба ацішыць настрої канфрантацыі паміж выбарчымі камітэтамі). Уладыку выразна задавальняе гэта. Зычачы мне вяртання да здароўя, засярodзіўся ён на царкоўным будаўніцтве і глыбокіх працэсах паланізацыі (на тысячу анкетаваных вернікаў у Мікалаеўскім саборы ажно дзевяцьсот выказаліся за польскую мову ў багаслужбе ды пропаведзях). Паўтарыў вядомую аргументацыю, што Праваслаўная Царква тут не можа быць толькі беларуская (...). Сам згадаў пра ўкраінскую фронду як пра малаістотную з'яву *(— горсть в Бельске).*

(...) Важна, што гутарка ўдалася спакойнай, без палемікі (...).

Шаснаццатага і семнаццатага — міністры сельскай гаспадаркі і збожжавых прадуктаў БССР, Хв. Мірачыцкі з М. Якушавым (і эксперты). Пакарысталіся яны неяк хутка фармальным запрашэннем БДА (меліся быць — як казалі нам у Мінску — не раней чым у верасні). (...) Былі перамовы з кіраўнікамі Беластоцкага і Сувальскага ваяводстваў, з бурмістрам Гайнаўкі. Целушэцкі з Сельвесюком, аднак, адыгралі цяпер відавочную ролю, і нават арганізавалі яны сустрэчу ім з гаспадарамі ў Махнатым (мелася быць у Чыжах). Як-ніяк, але кантракт на продаж ста пяцідзесяці тысячаў тон збожжа адсюль маем мы ўжо ў кішэні. З перспектывамі і на іншае... Да сотні мільярдаў злотых.

Трохі псаваў нам музыку менавіта Петрушкевіч, які — выявілася — на кантакце з... Цімашэвічам (...).

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— „Dyskusja", часопіс былога Ваяводскага дома культуры ў Беластоку;*

*— „Plus", штомесячны часопіс, які выходзіў у Беластоку, а рэдагаваны быў „салідарнікамі", прыхільнымі польска-беларускаму сужыццю;*

*— Мірaслаў Целушэцкі, Валянцін Сельвясюк, заснавальнікі фірмы „Амэга" ў Бельску, якая адыграла заўважальную ролю ў фінансавым успамажэнні беларускага руху ў рэгіёне.*

*— Петрушкевіч Мікалай, прадстаўнік Беларускай ССР у Пасольстве СССР у Варшаве.*

## Беларускі тэатр у Беластоку?!

*Працяг са стар. 1*

як Віктар Стахвюк з Беластока ці Сяргей Нічыпарук з Грабаўца — нашы маладыя бізнесмены. Калісь яны дапамагалі „Парнасу", пазней — „Балагану", фінансавалі іх паездкі, выступленні. А думаеце, што каб Віктар Стахвюк не дазволіў праводзіць рэпетыцыі ў сваёй хаце, ды не пашыў касцюмы музычнаму гурту „Белы сон", дык існаваў бы ён?! Ды і грошы ім на паездку ў Гданьск, на Фестываль нацыянальных меншасцей у Польшчы восенню мінулага года даў Віктар Стахвюк. А ці рок-гурт „Брага" змог бы існаваць без Лёніка Тарасэвіча?!

*— Але калі ўсё ж не ўдасца стварыць пастаянны беларускі тэатр? Ці — без канкрэтнай працы — вы не будзеце сябе адчуваць, быццам бы былі людзьмі без прафесіі?*

— У ніякім выпадку. Артыст — чалавек, які не чакае апладысментаў у адной зале, а мае абавязак быць з людзьмі. Не публіка для артыста, а артыст для публікі! На Беласточчыне другім абавязкам тэатра, асабліва беларускага, было б выйсце на вёску, да простых людзей, якім сёння асабліва не хапае культуры.

Памятаю нашых гледачоў у вёсцы Мастаўляны, зусім прыгранічнай вёсцы, дзе мы выступалі з „Балаганам" і „Жывым словам". Якімі вачыма яны глядзелі на нас! Можа, яны не ведалі, калі трэба біць брава, але я ўпэўнена, што гэтых сустрэч ніколі не забудуць. Дарэчы, у Мастаўлянах мы выступалі два разы. Аднойчы, калі дзве бабы занадта гучна размаўлялі, нейкі п'яны чалавек устаў, не вытрымаў: „Людзі, супыніцеся, культура да вас прыехала!"

*— Цяжка вам будзе з будынкам...*

— На пачатак нам бы хапіла залы ў Беларускім таварыстве. Калі там нічога не выйдзе, будзем збірацца па вёсках, у нейкіх святліцах. Вядома, калі гэта будзе адзіная магчымасць.

Ведаеце, я вельмі спадзяюся на людзей. У маім нядоўгім яшчэ жыцці мне пашэнціла сустракацца з людзьмі ідэі. Дзякуючы настаўніку Васілю Целушэцкаму, мне ў пачатковай школе ў Старым Ляўкове перастала быць соромна, што я не полька. Цяпер я ганаруся гэтым фактам. І сёння мне не соромна сказаць, што мне калісьці было соромна.

А вось хаця б і Янка Мордань, з якім я сутыкнулася ў І класе Беларускага ліцэя ў Бельску, — наскрозь ідэйны чалавек. Без ніякіх карысцяў аддаў усяго сябе беларускай культуры. Не мае з гэтага нічога, апрача сатысфакцыі.

*— Ці ў Менску вы не парываецe з мастацкай дзейнасцю, нягледзячы на столькі заняткаў у Акадэміі?*

— Я выступаю з „Жывым словам" — самадзейным тэатрам, які складаецца са студэнтаў педагагічнага універсітэта. Калектыў гэты з глыбокімі традыцыямі, яму ўжо 29 гадоў. Разам з імі я выступала, калі мы вандравалі па Беласточчыне, а яны ўспрымалі мяне як сваю, хаця я яшчэ нават не была студэнткай Акадэміі мастацтваў. Цяпер ездзім па ўсёй Беларусі. Штогод новы спектакль, а да таго літаратурна-музычныя мантажы. Выступаем у клубах, школах, у Доме літаратара. Часамі нас паказваюць па тэлебачанні.

*— А што з вашай уласнай творчасцю?*

— Пішу вершы, кароткія апавяданні, нават падышла да драмы.

*— Гітара, спеў?*

— Калі я была малая, спявала абы-што. А пасля вырашыла запісваць тое, што спяваю. Спяваю свае вершы, пішу музыку на словы нашых беластоцкіх паэтаў: Андрэя Сцепанюка, Надзеі Артымовіч, Віктара Шведа, Яна Чыквіна, Міры Лукшы.

*— Ці выступаеце са сваімі творамі публічна?*

— Так, выношу на сцэну свае пісанне, калі выступаю з „Жывым словам". Але галоўнае цяпер — беларускі тэатр на Беласточчыне. Хацелася б, каб ахвотных было шмат — кантактавацца трэба з Галоўным праўленнем Беларускага таварыства ў Беластоку, ды з беларускімі ліцэямі ў Бельску і Гайнаўцы.

*— Сардэчна дзякую за размову.*

**6 лютага 1995 года**

**Гутарыла і фатаграфавала**
**АДА ЧАЧУГА**

Зорка
старонка для дзяцей

## СІНІЦЫ

Замерзлі рэчкі і крыніцы,
Пад палазамі снег рыпіць.
Зляцеліся да нас сініцы,
Каб да вясны у садзе жыць.

Вясна надыдзе — і пяюшкі
Зноў паляцяць у лес назад,
Успомняць нашыя кармушкі
І наш гасцінны добры сад.

Паўлюк Прануза



Публіка з увагай сачыла за здарэннямі на сцэне.



У зале завіравала.



У Трасцянцы прыгожыя і таленавітыя дзяўчаты.



Танцы працягваліся аж да вечара.

## Ёлка ў Трасцянцы

На Вадохрышча ў Трасцянцы адбылася „ёлка". На гэты дзень вучні калярова прыстроілі школьны калідор. Там якраз праходзіла ёлачнае мерапрыемства. Трасцянскія вучні доўга гатовіліся да гэтага дня. Кожны клас меў падрыхтаваць мастацкую частку. Найбольшай папулярнасцю карыстаўся беларускі рэпертуар. П'есы паводле „Вясёлкі": „Як у нашым двары" і „Цуды ёсць на свеце" пакарылі публіку. Пры нагодзе многія ўдзельнікі „ёлкі" паказалі свае артыстычныя здольнасці. Яшчэ доўга будуць успамінаць гэта настаўнікі, бацькі, сябры.

Таксама сустрэча з Санта Клаўсам была цікавай. Каб выкупіць „пачку" ў Дзеда Мароза, трэба было спяваць, дэкламаваць, а нават танцаваць. Многія выкарыстоўвалі калядкі, якія нядаўна вывучалі і спявалі. Часта паяўляліся і беларускія вершыкі. Самыя смелыя і выразныя дэкламацыі публіка ўзнагароджвала воплескамі. А калі пачалася дыскатэка, у зале завіравала.

Здаецца, найбольш цешыліся наймалодшыя ўдзельнікі „ёлкі". Нястомныя бацькі з радасцю глядзелі на сваіх дачушак і сынкоў. Бо ж, вядома, у танцы людзі выглядаюць дужа прыгожа.

Тэкст і фота Г. К.



Санта Клаўс сёлета быў вельмі патрабавальны.



Бацькі жыва каменціравалі паводзіны сваіх дзяцей.

# М Э Н

Рэдагуюць вучні Гайнаўскага белліцэя


*Здарэнне дня*

## Высакароднае пасланніцтва

Сёння айцец Вяргілій паломнічае на Святую Гару. Мэта пілігрымкі — спроба ўпрасіць Нябесныя сілы, каб Найвышэйшы вярнуў у рады паслухмяных грэшніка-сына. Як неафіцыйна мы даведаліся, будзе гэта апошняя спроба паўплываць на Вяргілія-юніёра, „ктуры таке нумэры выкрэнцаў, жэ ім тэлефон одлончылі”.

*Сенсацыі*

## Катастрофа

Учора раніцай на тэрыторыі нашай школы здарылася катастрофа. Выходзячы з залы нумар 204, нейкі Чэстэр задумаў схіліць ідучую калідорам Кацярыну Р. сысці яму з дарогі. У выніку гэтага Кацярына Р. наткнулася на яго. Ад гэтага моцна пацярпела рэпутацыя Кацярыны Р., якую дагэтуль лічылі спакойнай і цнатлівай дзеўкай. Неўзабаве школьныя парадкавыя службы закрылі рух на другім паверсе і рушылі высвятляць акалічнасці выпадку — змерыць даўжыню тармажэння і дапытаць усіх сведкаў здарэння.

Пасля ўступнага расследавання вінаватым у злачынстве прызналі ліцэіста Чэстэра.

*Жыве дух справядлівасці*
*і волі,*
*Будзе Чэстэр у няволі!*

*Палітыка*

## Парламент

Наш парламент нядаўна разглядаў, распрацаваны партыяй „Добра будзе”, праект закона наконт камандзіровачных (diet) для дэпутатаў. Праект гэты прадбачваў, што кожны пасол і пасланка ў дзень працы Сойму будуць карыстацца прывілеем спажывання абеду ў школьнай сталовай. Меню ў асноўным складаюць бульба і суп. Пасля першага чытання, паслы з партыі „Х” унеслі заўвагу, што карысным было б таксама выпіць кампот. Яшчэ далей прабіўся пасол з партыі „Ветэраны”, які хацеў бы надзяліць кожнага дэпутата веласіпедам з шафёрам. Пасля адабрэння гэтых заўваг парламент правёў галасаванне, у выніку якога праект упаў і дагэтуль валяецца.

*Дасягненні*

## Школьны сторож

Вялікай хлуснёй з'яўляецца меркаванне, распаўсюджванае многімі непрыхільнікамі, быццам нашая школа не мае ніякіх дасягненняў. У сапраўднасці яны ёсць, дарэчы, яшчэ якія!

Апошнім часам, на той прыклад, наш бясцэнны школьны сторож прымаў удзел у сусветным конкурсе двайнікоў у Ганалулу. Там заваяваў ён прэстыжную ўзнагароду — „званне двайніка года” ў катэгорыі „я змахваю на Леха Валэнсу”.

*Атрымаўся просты пуант: школьны сторож — прэзідэнт.*

*Культура*

## Атрасіны

Нядаўна ў нашай школе адбыліся традыцыйныя „атрасіны”. Большасць спадарожнічаючых ім канкурэнцый аказаліся звычайна банальнымі, збітымі, вядомымі з папярэдніх гадоў. Нашае зацікаўленне выклікалі толькі дзве канкурэнцыі — „Паляванне на чырвоны кастрычнік” і раскладанне пасьянсаў.

*Пра іншае гаварыць не будзем, не абазначае гэта, што забудзем.*

*Прагноз*

## Надвор'е

Мінулы тыдзень прайшоў пад знакам павышанага ціску ў вучняў і настаўнікаў. Вынікала гэта з панавання кантрольнага антыцыклону, што павіс над нашай школай у панядзелак. Балазе, сёння кантрольны антыцыклон (wyż klasówkowy) перайшоў у суседні ліцэй, а мы апынуліся ў пераходнай зоне. Існуе аднак асцярога, што навальніца кантрольных прац завітае да нас неўзабаве.

*Юрыдычныя пытанні*

## Закон аб ботах

Апошнім часам уся школа жыве пастаянна ў страху. Выклікала яго ўвядзенне новых, радыкальных правіл аб змене абутку. Каб прадухіліць магчымыя ашуканствы, „закон аб ботах” дакладна і строга вызначае абутковыя правілы. Боты павінны быць:

а) дапасаваныя да нагі ўласніка,

б) выкананыя з вогнетрывалага матэрыялу,

в) не вышэйшыя за 170 міліметраў,

г) аднолькавага колеру, прыкметныя з трох метраў, нават у неспрыяльных умовах,

д) забяспечаныя рэфлекснымі ліхтарыкамі: ззаду — чырвонымі, спераду — белымі,

е) пазітыўна атэставаны Міністэрствам нацыянальнай адукацыі.

Пікантэрыі справе прыдае факт, што „закон аб ботах” датычыць таксама настаўнікаў. Прыдбаць такія боты не так і проста, а іхнюю цану нельга назваць нізкай ці памяркоўнай. Магчыма, што вырашэннем гэтай праблемы будзе канцэпцыя ліцэіста Юзіка Г. з другога класа. Вось, менавіта ён заўважыў прабелы ў гэтым законе. У ім жа не забараняецца хадзіць па школе басанож.

*Задумайцеся над гэтым, абыдзем закон, дарэчы!*

*Эканомія*

## Туалетная папера

Напэўна ўсе ўжо чулі пра ўчарашні крах на школьнай біржы каштоўных папераў, названы спецыялістамі „чорнай серадой”. Крызіс аб'явіўся якраз перад поўднем, калі ў прыбіральні на другім паверсе не хапіла паперы. Гэтае здарэнне выклікала жахлівы пярэпалах. Ля дзвярэй прыбіральні выстраіліся бясконцыя чэргі, здарыліся нават сутычкі за апошнія рулоны паперы.

*I my tam byli i rolkę wywalczyli!*

*Крымінальная хроніка*

## Камунікат

Ваяводскі аддзел паліцыі ў Вярстоку разаслаў па ўсёй краіне аб'яву аб пошуках злачынца Андрэя Х., вядомага ў школьным злачынным свеце як Arnold vel Topór vel Sylwester vel Ale Tuman. Мэта аб'явы — прымусіць таго ж Андрэя Х. удзельнічаць у кантрольных занятках па фізкультуры.

**Вось яго выгляд:**

— вочы малыя, шэрыя, шкодныя, косыя,

— рост невялікі, ногі як палкі, а на іх магутныя чаравікі,

— галава шырокая, твар пусты, мова небагатая, крыху хамаватая.

*Усіх папярэджваем, за дапамогу даб-ро забіраем!*

## ВЕДАЮ, ШТО НІЧОГА НЕ ВЕДАЮ!

**Інтэрв'ю з лаўрэатам гістарычнай алімпіяды Петрусём Іванюком.**

**Яна Кандрацюк:** — *Гавораць — поспех манернічае і мяшае ў галаве?*

**Пятрусь Іванюк:** — Ну, ці гэта вялікі поспех? Несумненна гэта адзін з важнейшых раздзелаў у маім жыцці, штуршок да развіцця маіх ведаў. Дарэчы, калі гаварыць пра мае прыярытэты, дык я да ўсяго падыходжу спакойна, усё хачу бачыць аб'ектыўна і бесстаронна. Поспех, з аднаго боку невялікі, хацелася б перайсці на цэнтральны этап, але з другога боку поспехам было ўжо вылучэнне ў школьных элімінацыях. Не стараюся думаць пра такія справы ў катэгорыі поспеху. Успрымаю гэта ўсё як здзейснены факт, з якога магу ўзяць навуку на будучыню.

— *Ці твая перамога ў алімпіядзе абазначае, што ты ўжо студэнт, а калі так, то якога факультэта?*

— Гэта быў важны крок да таго, каб стаць студэнтам. Перада мной яшчэ атэстат сталасці і ўступныя экзамены ва універсітэт. Думаю пра юрыдычны факультэт, бо гэта згодна з сямейнай традыцыяй.

— *Калі пачалося тваё захапленне гісторыяй?*

— Яшчэ ў пачатковай школе мяне захапілі гістарычныя кніжкі. Чалавек падсвядома сам адчувае сваю зацікаўленасць і, калі пачынае яе рэалізаваць, гэта вельмі добра.

— *Ці ёсць у гісторыі нейкая тэма, якая цябе асабліва цікавіць?*

— Старажытнасць. На ўроках мы знаёміліся з гэтай тэмай вельмі агульна. А гэта эпоха самая важная. У гэты час на свеце было створана амаль усё, што зараз мы ведаем. Далей было ўжо развіццё існуючага. Між старажытнасцю і сучаснасцю вялікі адрэзак часу, таму пра антычныя здарэнні гаворым без эмоцыі. Дарэчы, мяне заўсёды цікавіла тое, што легендарнае, малавядомае, ахутанае таямнічасцю.

— *Ці ёсць у гісторыі такая асоба, якая цябе захапіла?*

— ...?

— *Джым Морысан „кахаў” Аляксандра Вялікага...*

— Калі ўжо, напэўна гэта Сакрат. Яго словы: „Ведаю, што нічога не ведаю” для мяне з'яўляюцца сентэнцыяй жыцця. Гэта ж ён быў бацькам этыкі. Ведаючы такі каштоўны рэцэпт, жыццё можна накіраваць на „добрую дарогу”.

— *Маеш на ўвазе псаванне моладзі?*

— Не, імкненне да праўды, абсалютнай праўды.

— *Ты ідэаліст?*

— Так, сапраўды так, „spoko”!

— *Як твой поспех успрынялі бацькі?*

— Здаецца, яны больш перажываюць гэта за мяне. Напэўна яны палічылі гэта поспехам нашай сям'і.

—*Ці хтосьці дапамагаў табе ў падрыхтоўцы да алімпіяды?*

— Многа людзей. Прафесар Вапа мне і маім сябрам прысвяціў нямала свайго часу і ўвагі. Таксама бацькі і бабуля, якія шмат у чым мяне выручылі.

—*Ты таксама класны староста, рэдактар і заснавальнік „Мэна”. Ці хапае табе часу, скажам, на сустрэчу з дзяўчынай?*

— Самая важнае для мяне — матывацыя. З гэтага бярэцца ўся дзейнасць. А калі маю нагоду рабіць прыемнасць для людзей, час заўсёды знойдзецца.

— *Ці згодзішся са сцверджаннем: „Чалавек, які не ведае гісторыі — дзіцё”?*

— Так, гісторыя дае прыклады, ідэалы, дарогі. Калі ведаем пра памылкі ў гісторыі, стараемся іх пазбегнуць, не паўтараць.

— *Ці бачыш патрэбу навучання гісторыі Беларусі ў нашым ліцэі? Ці цікавіць яна цябе?*

— Напэўна гэта важнае для зацікаўленых. У сувязі з тым, што мы, вучні „беларускага ліцэя”, было б вельмі добра, каб такі прадмет выкладаўся ў нашай школе. Мне яна вельмі цікавая, як гісторыя кожнага іншага народа.

— *Ці апрача гісторыі яшчэ нечым цікавішся?*

— Я заўсёды меў шмат захапленняў: філатэлістыка, акварыстыка, рыбалка, а ў будучыні паляўніцтва, збіранне кніжак. Напішы, што я старасвецкі і ніколі не пакідаю свайго хобі назаўсёды. Вярнуся да яго ў вольны час, нават пасля пяцігадовага перапынку.

— *Ведаю, што канікулы праводзіш у Англіі. Ці наступныя таксама там жа?*

— Зразумела, хацеў бы. І калі будзе такая магчымасць, ахвотна паеду. Дарэчы, найбольш гэта карыснае мне з увагі на мову. Бо амаль усё цікавае турысту ў гэтай краіне я ўжо бачыў.

— *Тады да сустрэчы пры Лох Нес!*

**Гутарыла**
**Яна Кандрацюк**

Толькі скнара і лянівы не чытае МЭНа ў „Ніве”

# ЯН ЛЕАНЬЧУК

Нарадзіўся 24 чэрвеня 1950 года ў Лубніках пад Беластокам. Закончыў польскую філалогію Варшаўскага універсітэта. Аўтар паэтычных зборнікаў: „Rachunek" (1973), „Zalnik" (1979), „W drodze do Damaszku" (1980), „Duszna noc" (1981), „Żertwa" (1987), „Zawołam raz jeszcze ciemnym wierszem" (1991), „Pieśni z karnawału" (1991), „Zapisane" (1992).

* * *

калі ў зямельку я вярнуся
слязой крухмальнай на дабранач
у сказ адкрыты зорка ўскочыць
і будзе цыркаць верабейкам
а калі бацька ланцуг здыме
дзверы адчыніць сны зламае

ідзі па-за слова ў луг зялёны
кветкай прамовяць нашы маткі
банальным вершам дом маліўся
кроў пасля сну шумела ветрам

Ідуць дарогай — срэбранік звоніць —
бацька казаў — плуг край наш кроіць
на хлеб жабрачы — нястраўнасць
сказа...

* * *

абудзілі горад гэтай ноччу
закрычалі аканіцамі
у ютраню бледную як папера
у сутарэнні загарэлася святло
узлазіла цяпер увысь
крыжам
пад голую зорку

праўда сагнаная ў люстры
ікаўкай распарола цішу

ногі ўрасталі ў зямлю
маршам Шапэна

* * *

Маю хату вайна расстраляла
Белыя ўспрынялі за сваю
Чорныя крыж ставілі

пакуль агонь стаў сур'ёзным
у папялішчы птушка вылупілася
чорнай варонай страху

крыжам лёг бацька
на крыж маці ўбіта
бабка ў сон уцякла
дзверы не зачыніўшы

маю хату за лугам
вайна расстраляла...

* * *

месяц трупна засмяяўся
рагатаў у шклянках
у вуснах смак солі
пакроены ў сказы
народныя спевы
плылі вышэй вуснаў
скандаванае Веруо
спужалася малітвы
закрычалі сцэны
на здароўе польская душа
хай ніхто не кранецца
калі іграюць
танцуюць
Саламея зноў плача

*Пераклаў Віктар Швед*

# Пушча вачыма В. Бараноўскага

У 1994 г. мінскі Міжвыдавецкі фотацэнтр выпусціў альбом аб Белавежскай пушчы, у якім змешчана каля 180 каляровых здымкаў розных прадстаўнікоў флоры і фауны ды краявідаў гэтай ва ўсім свеце вядомай лясной жамчужыны. Альбом і так называецца — „Белавежская пушча". Унутры падаюцца яшчэ версіі загалоўка на рускай і англійскай мовах, а ў дадатак — падзагаловак: „Запаведныя мясціны Беларусі".

Пры паасобных здымках няма надпісаў (шкада!). Іх ролю ў нейкім сэнсе выконваюць кароткія ўводзіны (яны падаюцца ў трох моўных версіях) вучонага сакратара Дзяржаўнага нацыянальнага парку „Белавежская пушча" Вячаслава Семакова. Ён растлумачвае чытачу, у чым заключасцца каштоўнасць белавежскіх нетраў. Падае таксама, што ў пушчы жыве 59 відаў млекакормячых, 226 — птушак, 11 — земнаводных, 7 — паўзуноў, 28 — рыб, больш 9 000 насякомых. Канчае тэкст пажаданне: „... няхай гэты альбом будзе маленькім вакном у цудоўны і своеасаблівы свет беларускай прыроды, якая цудам захавалася да нашых дзён".

Аўтарам надта цікавых, прыгожых здымкаў, а заадно і альбома, з'яўляецца журналіст-фатограф Віталь Бараноўскі. Ён у кароткім тэксце, змешчаным у канцы альбома, піша (на расейскай мове): „Я благодарен журналистской судьбе, подарившей мне свидание с Беловежской Пущей. Немного осталось в мире уголков земли, где не ступила нога человека, где природа не тронута его необдуманным вмешательством в естественный процесс". Далей даведваемся, што аўтар „не ставил перед собой цель разрешения проблемм, которых в Пуще накопилось достаточно много. Это дело учёных, которые ведут здесь многотрудную научно-исследовательскую работу и борьбу за сохранение того, что ещё возможно сохранить и возродить".

Лістаючы старонкі альбома, у нейкай ступені накіроўваемся на шлях вандровак В. Бараноўскага. Глядзім пушчу яго вачыма, каштуем ягоны мастацкі смак, адчуваем ягоныя назіранні. Трэба згадзіцца, што гэтая вандроўка ўцягвае, выклікае высокародныя пачуцці. Дзесьці ўжо пасля дваццатага ці трыццатага пабачанага здымка нараджаецца ў гледача думка, а яшчэ далей — паяўляецца цвёрдае перакананне, што захапляючая белавежская прырода павінна безумоўна захоўвацца. Гэта для В. Бараноўскага вялікі плюс!

Шкадаваць трэба толькі, што альбом (ягоны тыраж 8 960 паасобнікаў) выдадзены не на найлепшай паперы. Непрыемнае ўражанне ў сваю чаргу можа рабіць чорны фон для здымкаў.

Усё ж, альбом варта мець у сваёй дамашняй бібліятэцы. Добра было б, каб нейкую частку тыражу нехта прывёз у Польшчу. Кніжку павінны прадаваць кнігарні ў Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім, Беластоку, а ўжо абавязкова павінна яна быць даступнай у Белавежы!

**Пётр Байко**

# Дзед Вандал у музеі воскавых фігур

Узрост не ёсць ні заганай, ні хваробай, ні грэхам. Гляджу на некаторых сваіх аднагодкаў, а нават і маладзейшых, злосна памахваючых палачкамі (у некаторых там хітра схавана халодная зброя!), як з адчаем у нявінных выцвілых старэчых вачах злуюцца на „маладых": што тыя — „нігілісты", што „іканаборцы", што дурні недавучаныя, а перарабіць, перавярнуць хочуць усё тое, што мы вось тымі, мазолістымі рукамі будавалі ці абараняслі пад свіст варожых куль... Малады які можа і ўсміхнецца, мае, дарэчы, права: а што ж вы такое зрабілі, калі пасля вас усё рамантаваць трэба, а нават і з падмуркамі развальваць; не мелі вы рацыі, то мейце хоць адвагу да гэтага прызнацца. Ой, людкове, ці ж і мы не былі маладымі? Чалавеку на тое і адмерана юнацтва і маладосць, каб браўся за плечукі з тым усім, што застаў, што кепскім яму здаецца ці несправядлівым ды крывадушным, пахне цвіллю ды гніллю, словам — смерцю, руінаю, закасцянеласцю. Каб браўся будаваць новае, светлае, з надзеяй на лепшы, разумнейшы, гарманічны свет. Цудоўна, калі ў „старым" не гасне, не тупее гэта свежае пачуццё моцы і ахвоты змагацца не за „прынцыпы", а проста — за праўду. І яны — тыя, хто знойдзе „залатую сярэдзіну", тыя са „старых" і „маладых" — **ствараюць, будуюць, яднаюць!**

Найбольш прыкра мне, старому чалавеку, глядзець, чытаць і слухаць пра нейкае ўзаемапільнае „аплёўванне" або, горш, аплёўванне нейкімі таямнічымі злавеснымі сіламі, якім тыя багата частуюць „вечнааплёўваемых", бедных, бяссільных і шчыра ўсім адданых. Панове! Да чыстага ніякая поскудзь, ніякая ядавітая агіда не бярэцца, не прыклейваецца! Калі хтосьці ўмее толькі вечным лямантам заглушаць нават набатныя гукі званоў б'ючых на трывогу, сабраўшыся „магучай кучкай" у 5—6 чалавек галасіць пра былыя перамогі і цяжкае сёння, дзе месца толькі для „маладых", „нігілістаў" і анты-„нашых" (цьфу! якія ж тыя не-нашыя *праціўныя*: мала што маладыя і прыгожыя, то і моцныя, агрэсіўна-зубастыя, разам трымаюцца і плануюць, і як цяжка ім падбіць нагу, высылаючы супраць іх нават самых вопытных з высока-шнураванымі жалезнымі чаравікамі!). А калі нават „маладыя" (не кажу тут пра ўзрост!) гатовы пайсці на нейкі разумны практычны кампраміс дзеля супольнай, важнай справы, „магучая кучка" хутчэй гуртом і каларытна павесіцца ці запалае на галоўным пляцы ваяводства, абліўшыся нафтай, дбайна і празорліва прыхаванай з пяцідзесятых гадоў, чым сядзе разам з іншымі за сталом, каб штосьці выдумаць і выращыць, каб не пайсці разам на дно нават і не булькнуўшы.

**Вандал Арлянскі**




*БАРЫС РУСКО*

### У замецi жыцця

У замецi жыцця я —
птах заблытаны
ў гушчары ночы,
голас шапатлівы
сярод кляксанаў вуліцы,
жэст у гульні
няўцямнай хвіліны,
цень з кінастужкі
лёсу.
У замеці жыцця,
у клешчах
прамяністай глебы
зерне прарастае
болем.

### Крык памірання

У імгле лічу
дажджавыя кроплі,
слёзы памірання.
Крылы чорнага бусла
лапочуць над дубам,
што стаў на калені.
Адыходзяць разам...
Раны пушчы адкрыты —
боль распяцця.
Пень! Усюдуісны пень —
крык роспачны слова,
што жыць загадала дрэвам.
Крыж — чорная стужка
на грудзі асуджанага.

### Яшчэ далёка

Калі адкрываю малітоўнік
паліналай веры,
я ў клопаце.
Пульс слова
ледзь б'ецца,
думкі выстуджаны.
Калі сустракаю таго,
каму давяраў, я —
спуджаны птах:
як пасівела праўда
вечна маладая!
Калі аглядаю свет
пад мікраскопам,
я ў аняменні.
Далёка да святыні,
каб запаліць у ёй
агонь хвалы
за ласку асвячэння.

### Я і цень

Я і мой цень
заўсёды разам.
Я — тут,
а мой цень —
там.
Трохвымерны
погляд
нуль значыць
у двухвымерным
існаванні.
Тут я —
канатаход,
заўсёды чуйны,
заўсёды хворы.
Там —
мой цень
у эйфарыі
шчасця.
Тут я
застылая
ў сваёй форме
геаметрычная
фігура.
Там —
мой цень:
змянясцца
ад нуля
да бясконцасці,
заўсёды ва ўцёках,
заўсёды ў вяртанні.
У трохвымерным
лабірынце
лепей быць
ценем.

### Развітанне з бацькам

Развітаўся з Ім
назаўсёды. Не.
З Ім не развітваюцца
ніколі,
як не развітваюцца
з сонцам
і з любоўю,
і з пасеяным зернем
ў жыцця лоне,
як не развітваюцца
з крыжам
і з малітвай.
Развітаўся!

# Што будзе з Беларускім музеем?

31 студзеня 1995 г. віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела прыняў дэлегацыю з Беласточчыны: віцэ-ваяводу Гжэгажа Рыкоўскага, бурмістра Гайнаўкі Ядвігу Рудзінскую-Патэюк, пасла Сяргея Плеву, старшыню Беларускага грамадска-культурага таварыства Янку Сычэўскага і старшыню Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея Кастуся Майсеню. Як паведаміла „Gazeta w Białymstoku" (дадатак „Gazety Wyborczej") ад 1 лютага, міністр сказаў, што „музей з'яўляецца будоўляй не з гэтае эпохі".

Бурмістр Гайнаўкі паінфармавала пра гэтую сустрэчу Гарадскую раду на сесіі 2 лютага. Сказала яна, што Музей з'яўляецца цэннай ініцыятывай, але апынуўся ён у вельмі цяжкім становішчы. Цяпер з'яўляецца ён уласнасцю Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Міністэрства культуры перастала яго фінансаваць, бо дзяржава не фінансуе грамадскіх арганізацый. Адна з прапаноў міністра Ягелы была такая, каб горад стаў уласнікам аб'екта, даканчыў пабудову і ўтрымліваў яго. Пані бурмістр адмовілася, аргументуючы тым, што гэта Гайнаўцы не пад сілу. Радныя прынялі інфармацыю маўчаннем, а маўчанне, як вядома — знак згоды.

Кастусь Майсеня пакідае апошняе слова за агульным сходам сяброў Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея. Лічыць ён аднак, што нельга пагадзіцца на тое, каб Беларускі музей у Гайнаўцы стаў філіялам дзяржаўнага Акруговага музея ў Беластоку, падпарадкаванага ваяводу. Тады толькі частка будынкаў выконвала б сваю музейную ролю, а большасць пайшла б пад камерцыю. Спадар Майсеня разлічвае на дапамогу Беларусі. А тым часам пабудова працягваецца.

**М. В.**

## ВЯЛІКАМУЧАНІК ФЁДАР СТРАЦІЛАТ

Святы Фёдар паходзіў з ваколіц Іраклеі Понцкай (цяпер Эрэглі ў паўночнай Турцыі). Вылучаўся ён мудрасцю і красамоўствам. Спачатку служыў у войску, дзе праславіўся вялікай мужнасцю, а потым быў прызначаны імператарам на пост ваяводы (грэч. страцілат) Іраклеі. Дзеялася гэта пры панаванні чарговага ганебнага імператара Лікінія (307 — 324 г.г.), які ў ганеннях на хрысціян замясціў Максіміяна. Правіў ён рымскай імперыяй разам з Канстанцінам Вялікім. Нягледзячы на міланскі эдыкт ад 313 г., які дазваляў спавядаць хрысціянства ў кіраванай ім усходняй частцы імперыі, Лікіній у далейшым праследаваў хрысціян. Гэта пры яго панаванні смерць прынялі між іншым 40 севасційскіх мучанікаў.

Заўважыўшы, што рашучая большасць хрысціян лічыць за лепшае смерць, чым ідалапаклонства, выбраў іншую тактыку. Вырашыў ён намаўляць да гэтага толькі больш вядомых хрысціян — чыноўнікаў, багатых гараджан і салдат. Просты народ пакінуў ён у спакоі. Імператар спадзяваўся, што калі прадстаўнікі вышэйшых саслоўяў грамадства адракуцца ад веры ў Хрыста, тады і астатнія пойдуць гэтым самым шляхам. Святы Фёдар — ваявода, хрысціянін і красамоўца — сваім прыкладам богабаязнага жыцця прывёў у хрысціянства многіх жыхароў Іраклеі і ваколіц. Імператар Лікіній пабываў тады ў Нікамедыі каля Чорнага мора (сёння Ізміт) і калі даведаўся аб пачынаннях Фёдара, загадаў прывесці яго перад сваё аблічча. Фёдар імператарскіх пасланцаў прыняў з пашанай, абдорыў іх і перадаў ліст, у якім прасіў імператара наведаць Іраклею. Пісаў ён, што амаль усе жыхары горада вераць у Хрыста і толькі прыезд уладара можа змяніць гэтую сітуацыю. Зрабіў гэтак, бо хацеў загінуць у сваім горадзе.

Ноччу Св. Фёдар пачуў голас з неба: „Будзь адважны, Фёдар. Я — з табою!" Зразумеў ён тады, што набліжаецца час выпрабаванняў і ўцешыўся, што яму прыйдзецца пакутаваць дзеля Хрыста. Калі Лікіній набліжаўся да горада, Святы маліўся Госпаду, каб узмацніў яго веру і сілы. Потым выйшаў сустрэць імператара і аддаць яму пашану. Папрасіў таксама яго зрабіць з золата і серабра статуэткі элінскіх бажкоў. Гаварыў, што насамперш сам ім хоча пакланіцца, а потым можа гэта ўчыніць публічна. У сваім доме разбіў ён статутэткі на кавалачкі і раздаў іх бедным. Пасля двух дзён Лікіній паслаў сваіх паслуг за Фёдарам, каб той выканаў сваё абяцанне і публічна пакланіўся ды прынёс ахвяру бажкам.



Падчас размовы Лікінія з Фёдарам адзін з салдат сказаў імператару, што страцілат ашукаў яго, паколькі напярэдадні сам ён давсдаўся, што Фёдар раздае немаёмным фрагменты знішчаных сабою бажкоў. Фёдар прызнаўся, што ён — хрысціянін і ў сапраўднасці знішчыў статуэткі. Даказваў таксама Лікінію бяссэнсавасць трывання ў язычніцтве. Раззлаваны і дадзены да крайнасці імператар загадаў падвергнуць ваяводу катаванням. Святога расцягнулі на зямлі і сталі збіваць жалезнымі прутамі па цэлым целе і прыпякаць агнём. Зразумеўшы, што вычварныя пакуты не даюць жаданых вынікаў, ваяводу Іраклеі распялі і павыколвалі яму вочы. Распяты Фёдар, прадчуваючы канец свайго зямнога жыцця, прасіў Госпада прыняць яго на неба з увагі на пакуты, якія перанёс ён у імя Збавіцеля. Палічыўшы пакутніка мёртвым, Лікіній пакінуў распятага Фёдара на крыжы.

Ноччу з'явіўся Анёл, які ў цудоўны спосаб вярнуў Фёдара да жыцця. Двух сотнікаў, якіх імператар паслаў зняць цела, пабачыўшы, што здарылася, самі прынялі хрысціянсвта. Апрача іх веру ў Хрыста прынялі ў гэты дзень каля 70 салдат. Пасля ўсіх гэтых здарэнняў Лікіній загадаў адсекчы Фёдару галаву мячом. Здарылася гэтае ў 319 годзе. Пакуты Святога былі апісаны сведкам, яго слугою Уарам.

Памяць Св. Вялікамучаніка Фёдара Страцілата ўшаноўваем 21 лютага (8.02 па старому стылю). На прыложанай да гэтага тэксту іконе побач Святога Фёдара Страцілата знаходзіцца таксама Св. Вялікамучанік Фёдар Цірон. Загінуў ён каля 306 года, а яго памяць ушаноўваем 2 сакавіка (17 лютага па ст. стылю).

С.Н.

## ІКОНЫ

**Частка XXII**

Разважлівы чытач заўважыў, што мае бацькі Андрэй і Пелагея Баршчэўскія сталі на супрацьлеглых светапоглядных пазіцыях. Бацька быў скептыкам і вольнадумцам, маці належала да катэгорыі жанчын глыбока веруючых. Магло б здавацца, што такая сітуацыя выклікала ў нашай сям'і стрэсавыя станы, супярэчлівасці і канфлікты. Аднак на працягу ўсяго майго жыцця ў крузе нашай сям'і я ніколі не быў сведкам найменшай спрэчкі, якая датычыла б рэлігійных непаразуменняў. Такіх непаладак у нас ніколі не было, за што я глыбока ўдзячны як маці, так і бацьку. Дух талерантнасці, хаця гэтае слова не было вядомым у нашай сям'і, поўнасцю панаваў у штодзённым жыцці. Калі ў 1949 годзе я пакідаў Бандары і накіроўваўся на навуку ў далёкі Люблін, бацька правёў са мной доўгую размову, у якой між іншым сказаў: „Я ні знаю, чы ты веруючы, чы не. Гэто твае дзело. Помні толькі, калі ты веруючы, ні нападай на няверуючых, а калі ніверуючы, то ні нападай на веруючых. Няхай кажды чалавек жыве сваім розумам і атвечае за свае паступкі. Я то там ні веру ў тое, што па смерці Бог будзе караці пякельнымі мукамі ўсіх тых, хто ні верыў. Калі ест Бог, то ён будзе караці або награждаці ні за веру або ніверу, а толькі за тое, чы чалавек быў чэсны, чы нічэсны, чы паступаў па-чалавечы, чы па-сабачы, от і ўсё. Ні можэ быці так, каб разбойнікі, або зладзеі, або клеветнікі былі ўзяты Богам у рай толькі таму, што яны былі веруючымі і хадзілі да споведзі, а парадачны чалавек, каторы нікому ніколі не зрабіў ніякае крыўды, пападаў у пекла, бо ён ні маліўсе і ні спавядаўсе. Гэто ж было б вялікае глупства. Так мог бы паступаць толькі злосны злы чалавек, а ні Бог".

Калі б мяне хтосьці спытаў, каму больш заўдзячваю — маці ці бацьку, дык я адказаў бы, што аднаму і другому аднолькава многа.

Што датычыцца іконаў, дык і ў гэтай справе паміж маёй маці і бацькам выступалі вялікія розніцы ў іх інтэрпрэтацыі. Маці, хаця і не ўжывала такіх слоў, якімі я зараз паслужуся, лічыла, што іконы гэта непасрэдныя сляды Бога, Божай Маці, Хрыста і іншых святых. Для бацькі іконы былі чалавечым прадуктам, „чалавечымі малюнкамі", якія вынікалі з біблейскага ўплыву на чалавечае ўяўленне. Іх значэнне, паводле майго бацькі, заключаецца не ў іх аб'ектыўнай святасці ці цудатворнасці, а толькі ў акрэсленым уплыве на псіхіку людзей, якія вераць у хрысціянскія догмы. Зразумела, што і тут ужываю я сваёй стылістыкі, якой не карыстаўся мой бацька. Аднак яе істота застасцца ў згодзе з духам бацькоўскіх выказванняў.

Для майго бацькі прысутнасць іконаў у нашай хаце, як і ва ўсіх іншых беларусаў, вынікала з адвечнай традыцыі. „Аб чым тут думаці? — гаварыў бацька, — так яно было пры нашых прадзедах, дзедах і бацьках. Так яно і ест сягодня. Я ж бачыў, як у часе рэвалюцыі ў Расеі паставыя вывалакалі іконы і распальвалі з іх кастры на вуліцах Масквы. Старыя людзі, каторыя праходзілі каля такіх пастоў, жагналіся і паўтаралі: „антыхрысты, антыхрысты, прыйшоў канец свету". Ну і каму гэто трэбо было? Калі хтось ні шануе рэлігіі ці іконы, то ніхай сабе ні шануе. Гэто яго дзело. Але нашто рабіці такое, ад чаго валасы ставіліся дыбам у старэйшых веруючых людзей? Зрэштаю, гарэлі ні толькі іконы, я сам ні раз бачыў як па Маскве гналі пад канвоем папоў у цюрмы. Некаторыя з іх былі сівенькі старэнькі людзі. Ну, які ж з такога чалавека, каторы ужэ стаяў над магілаю, контррэвалюцыянер? Усё гэто было страшнэ і смешнэ. Ну, трэбо сказаці, што яшчэ ў Польшчы то ўсё гэто выглядало па-божаму. Праўда, я чуў, што перад вайною то дзесь там, у Варшаві чы дзе, палякі ўзрывалі цэрквы дзінамітам. Але тут то і да вайны, і пры дэмакрацыі, то нідзе хібо ні было такого выпадку, каб жонд нішчыў цэрквы або паліў іконы. Я пра такое штось то ніколі ні чуў. Значыцца ў гэтай справі то палякі разумнейшы чым рускіе".

Вынесеныя з роднай хаты перакананні і погляды на рэлігійныя справы і дылемы, пазволілі мне да сёння захаваць абсалютную талерантнасць у адносінах да ўсіх рэлігіяў свету і да ўсіх атэізмаў.

Дзякуючы гэтай талерантнасці, сярод розных крытэрыяў пры ацэнцы людзей не бяру ўвогуле пад увагу крытэрыя рэлігійнасці або нерэлігійнасці чалавека.

Са сказанага не вынікае, што не ўсведамляю сабе важнасці сваіх праваслаўных карэнняў і што не бяру гэтага чынніка пад увагу пры самаакрэсленні сваёй асобы і сваёй тоеснасці.

Зразумела, што пры ацэнцы істоты іконаў бліжэйшы мне бацькоўскі пункт гледжання, чым матчыная трактоўка іх як непасрэдных божых слядоў на зямлі. Ікона для мяне гэта чыста чалавечы твар, арганічны элемент нашага мастацтва і нашай культуры, праява традыцыі, якая вымагае пашаны, павагі і кантэмпляцыі.

Некалькі гадоў назад я пэўнаму высокаадукаванаму чалавеку расказаў аб рэлігійнасці сваёй маці і вольнадумстве свайго бацькі. Мой субяседнік, выслухаўшы мяне, сказаў: „Спачуваю табе, бо ты вырастаў паміж молатам і кавадлам". Прагну сказаць, што няма нічога больш памылковага, чым такое сцверджанне. Я асабіста ўспрымаў і ўспрымаю сваіх бацькоў не як молат і накавальню, а толькі як зялёныя спеўныя дрэвы, незалежны гоман якіх уплываў дабратворна на маю псіхіку, спрыяў маёй талерантнасці ў адносінах да ўсіх праяваў чалавечай самастойнасці і незалежнасці нават тады, калі гэтая незалежнасць ішла ўразрэз з маімі поглядамі і прынцыпамі.

**Алесь Барскі**

З былога

## Бацькоўскі праклён

Старэйшыя чытачы добра памятаюць, як цяжка было калісьці дастаць грошы. Нават тыя, каго лічылі ў вёсцы багацеямі, вымушаны былі ашчаджаць. Без розніцы — багаты ці бедны, хадзілі босыя, шанавалі вопратку, карміліся скромна.

У мясцовасці Ц. жыла сям'я, найбяднейшая ў вёсцы. Калі найстарэйшы сын ажаніўся, бацькі рашылі пабудаваць новы дом. Свайго лесу не мелі, і трэба было купіць драўніну. Маладых адправілі ў маёнтак, каб у жніво зарабілі трохі грошай. Прадалі дзве каровы і вялікага вепрука, пару злотых мелі ў тайніку. Палічылі ўсё — хапіла б на драўніну. Вызначылі ўжо дзень, калі паедуць купляць матэрыял на дом.

Маладое сужонства пашаптала паміж сабой. Рашылі тыя грошы ўзяць сабе, накупіць усяго, а сказаць, што атрымалі гэта ў падарунку ад Маньчыных бацькоў. Калі прыйшоў час ехаць па драўніну, у тайніку не было ні грошыка.

Што тады тварылася дома! Старыя плакалі і праклінalі злодзея. Клялі такімі словамі, што валасы дыбам станавіліся. Жадалі, каб гада пакруціла і пакалечыла так, як людзей не калечыць. Каб слова не прамовіў і памёр, не дачакаўшыся бацюшкі...

Маладыя маўчалі. Грошай не вярнулі. Рашылі толькі праз год крануць схаванае і ўсяго накупіць.

Роўна праз шэсць месяцаў ад таго здарэння ў сям'і нарадзілася дзяўчынка. Ручкі і ножкі ў малой былі скручаны, вусны дзіўныя — не магла смактаць малако маткі. Не паспелі яе ахрысціць, як памерла. Бацькі малое зразумелі, што ўсё гэта — па іх віне. Рашылі вярнуць грошы і раскаяцца перад бацькамі. Раніцай, у святую нядзелю, упалі перад імі на калені.

— Божа мой, Божа! — заламаў рукі стары. — Што вырасла з майго сына?! Якую жанчыну мы сабе ўзялі за нявестку?!

— Чаму вы, дзеткі, адразу не сказалі, што гэтак учынілі? — плакала маці. — Не было б той біды з маёй унучачкай!

Бацькі маліліся, каб Бог адвярнуў праклён. Хадзілі нават на Грабарку. Аднойчы маці прысніўся сон. Нейкая жанчына сказала ёй, каб маладыя купілі аддзельную гаспадарку, бо інакш усе дзеці, якія народзяцца ў гэтым доме, будуць калекімі і памруць.

Не так было лёгка калісьці купіць гаспадарку, тым больш, што ў бацькоў грошай было няшмат. Пакуль маладыя аддзяліліся, нарадзіліся ім дзяўчынка і хлопчык. Сынок памёр адразу, дачушка жыла два гады. Пасля ўжо на новым месцы нарадзілася ім трое здаровых дзяцей.

Усе старыя, разумныя людзі кажуць, што трэба так жыць, каб не ўчыніць нічога дрэннага. Праклёны здзяйсняюцца, калі не на віноўніках, то на іх патомках.

**Аўрора**

## СОН БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛІСТА

Дарагі Астроне! Дзіўны сон мне прысніўся. Уяві сабе, што вярнуўся год 1989, а беларускае грамадства Беласточчыны ў агульным вобразе выглядала вельмі прыстойна. Было нас тады няшмат, штосьці каля 200 тысяч, але ўсе хацелі быць сабою, г.зн. беларусамі. Людзі шанавалі сваю мову, таксама як мову сваіх суседзяў, палякаў. Заходжу ў краму пры вуліцы Ліповай у Беластоку, звяртаюся да прадаўшчыцы па-беларуску, а яна адказвае на такой жа мове. Едзем з бацькам аўтобусам, размаўляем голасна, як у сябе дома, і ніхто не здзіўляецца і не абураецца на гук беларускай мовы. Такая гісторыя плялася мне цэлую ноч, а перад сном — зазначаю — не выпіў ні грама высакароднага напітку. Але, што было далей?

Гляджу ў тэлевізар, а там нейкі дыктар у чырвонай шапачцы абвяшчае змену ўлады ў дзяржаве. Новая ўлада, — гаворыць, — дазваляе грамадзянам Польшчы верыць у Бога, любіць і дзяцей, і старых, і дарослых, шанаваць іншыя народы, веравызнанні і культуры. Мэты ўлады і грамадства ў канцы зышліся. Стала штосьці небывалае — людзі памагалі адзін другому, усміхаліся да сябе, ніхто нікога не хацеў перахітрыць, аграбіць ці зрабіць нешта брыдкае. Скрываная талерантнасць, добрасумленнасць, шчырасць, працавітасць сталі агульнаабавязваючымі прынцыпамі. Усялякія крывадушнікі па сваёй волі ехалі ў спецкурорты, дзе псіхааналітыкі і псіхатэрапеўты дапамагалі ім пераўтварыцца ў высакародныя персоны.

Тэлебачанне і прэса пастаянна і сумленна інфармавалі пра дзікасць звычаяў у суседняй краіне.

Кожны быў шчаслівы, што прыйшлося яму жыць сярод такіх добрых і добразычлівых людзей.

Пэўна пад уплывам вонкавага акружэння вельмі высакароднае было і нашае грамадства. Разам са зменай улады ў краіне, заслужаныя дзеячы, якіх стары рэжым сілаю загнаў у кіраўнічыя органы нейкай арганізацыі (назва не запамяталася), атрымалі магчымасць пайсці на доўгачаканы адпачынак. Некаторыя толькі па просьбе маладога пакалення засталіся ў арганізацыі, каб дапамагчы маладым разабрацца ў складанасці праблемаў, якія пакінуў таталітарны парадак, існуючы тут пару дзесяткаў гадоў. Пасля бачу заслужаных нашых дзеячаў як частых гасцей на імпрэзах арганізаваных... студэнтамі. Раз былі гэта, здаецца, атрасіны. У рытм музыкі калектыву „Грамада" побач моладзі весела скакалі нейкія сівеючыя джэнтльмены. Цешыліся, што іх праца не змарнавалася, а знайшліся людзі, якім можна было перадаць свой вопыт. Маладыя з пашанай слухалі пра іх змагарныя дарогі ў нялёгкі час падпарадкавання таталітарнаму рэжыму. Цікава, што гэтыя гульні адбываліся ў новым будынку, які ўсе згодна называлі: „наш цэнтр культуры". Новыя дзяржаўныя ўлады выдзелілі беларусам нейкую астранамічную суму — 4 мільярды злотых. Тады, здаецца, мела гэта вартасць 420 тысяч долараў. Два дні сядзелі старыя і маладыя, пілі каву і думалі, як выдаткаваць такую кучу грошай. Вырашылі купіць вялікі дом у цэнтры горада Беластока за мільярд злотых (100 тыс. долараў), друкарню за другі мільярд, нейкія камп'ютэры за 100 мільёнаў, астатнюю суму заінвес-таваць так, каб у будучыні давала прыбытак на ўсялякую культурную дзейнасць. Асабліва ўсе цешыліся будынкам, лічылі яго супольным домам усіх беларусаў Беласточчыны. Друкарня таксама пачала працаваць у карысць беларускай справы. Друкавалася там „Ніва", пасля паказаўся месячнік „Czasopis", кніжкі і шмат іншых дробязяў, якія давалі немалы прыбытак. Калі ідзе пра „Ніву", можна было яе купіць у кожнай краме, рэдакцыя была недалёка „Цэнтра" але таксама ў прыгожым будынку. Суседзі былі вельмі цывілізаванымі людзьмі, прадстаўлялі сабой найвышэйшы ўзровень чалавечай сумленнасці і хрысціянскай маральнасці. Сустрэча з імі была вялікай прыемнасцю для душы. Глядзячы на гэтых паноў і паняў з усмешкай на твары, заўсёды спрыяльных беларусам, чалавек неяк сам па сабе адчуваў патрэбу рэагаваць такім самым жэстам.

А далей сняцца нейкія выбары. Нашыя дзеячы вырашылі, што трэба мець сваіх прадстаўнікоў у польскім парламенце, каб там, дзе вырашаюцца найважнейшыя справы, маглі яны прадставіць нашыя патрэбы. Пару дзён думалі, хто найлепш выпаўніць гэту місію. Вырашылі вельмі разумна — адкінуць усіх рамантыкаў, красамоўных спадароў, наіўных, прайдзісветаў і маральных аўтарытэтаў.

Чатырох паслоў і сенатар былі выбраны беларусамі Беласточчыны. Сачылі яны за тым, каб іх выбаршчыкаў улада трактавала аднолькава з іншымі грамадзянамі Польшчы. Хаця не мелі шмат працы, але часам здараліся нейкія недаразуменні, зразумела, не былі яны вынікам нічыёй злой волі. І на канец дзіўны — як цэлы сон — вобраз: на нейкім агромністым пляцы Беластока шматтысячны натоўп, а на трыбуне Сакрат Яновіч гаворыць прамову на беларускай мове ў абарону старых вербаў, якія ўлады горада задумалі высечы, каб пасадзіць там апельсінавыя дрэўцы. Грымнулі воплескі і я прачнуўся. Аднак пару хвілін пасля зарыентаваўся, што тыя воплескі маглі не быць воплескамі. За сцяною ў кухні жонка разбіла талерку і гэта пэўна гук падаючай пасудзіны прывёў мяне ў стан рэчаіснасці. Усё ж такі, Астроне, зусім не ведаю, што думаць пра такі сон. Шмат у ім здзеклівасці над намі і нашай рэчаіснасцю. Але, сапраўды, гэта вялікая прыемнасць пабачыць беларусаў — хаця толькі ў сне — як нармальную нацыю.

**Васіль Кургановіч**

## Папраўка

У пашарпаным па-воўчы цэнзурай у бесцэнзурным краі маім палемічным тэксце са сп. М. Куптэлям (павінна быць: *Куптэлем* — рэд.) („Ніва" н-р 2 (2017) ад 8 студзеня г.г., с. 10), з увагі на ўсё яшчэ неадменнае ў рэдакцыі з часоў княжання ў ёй Яго Высокай Міласці тав. Галоўнага Жалезнага Рэдактара (эпітэт Беластоцкага Класіка Беллітаратуры) ваеннае з бельскімі, гайнаўскімі і сямяціцкімі ўкраінцамі становішча, пракраліся досыць істотныя для мяне памылкі.

У трэцім абзацы першага радка ў слове „ласкавасць" з'елі вы другую літару „с" замест аднаго бельскага ўкраінца.

Слова **Беласточчына** (першы абзац трэцяга радка) пішацца, здаецца праз два ч, спадары таварышы рэдактары! Ці ж мне, украінцу, павучаць вас, беларусаў?..

У другім абзацы гэтага ж радка слова „Вялікі" у (павінна быць: *ў* — рэд.) словазлучэнні „Вялікі Пісьменнік" вы чамусьці ў супрацьлегласць „Вялікаму Айцу Народаў" напісалі з малой літары. Я ж стаўлюся з аднолькавай пашанай да абодвух гэтых Павадыроў Народаў! У гэтым жа абзацы ў маім арыгінале было: „выганялі", а не „выгналі за Нараў" (!), як вы надрукавалі. Хіба што папраўляла гэты тэкст умелая рука Вялікага Пісьменніка, дык тады я згодны, таму што ён найлепш ведае ці ж у гэты дзень 28 мая 1983 г. яго ўсяго толькі „выганялі" ці былі ўжо „выгналі за Нараў"! У цягніку ў Беласток суправаджаў яго ў гэту ноч адзін „агент, якога асабіста я добра ведаю" (цытата з твора эпісталярнай літаратуры ад 3 красавіка 1984 г. папулярнага гісторыка, — захоўваецца ў Беларускім музеі нямецкага горада Ляймена каля Хайдэльберга). Так што, Вялікі Спадара-Таварышу, бельскія ўкраінцы, як расавыя агенты, распараджаюцца тут дакладнай інфармацыяй! Не праваронянь нічога!

У княжым, вядомая рэч, Бельску, бо ад нашага князя Ярaслава (978—1054), а не нейкай княгіні Боны! (абзац гэты ж гэтага ж радка).

Спадзяюся, што сп. М. Куптэль, у сувязі са спецыяльна дапрацаванай яму стылістычна рэдакцыяй маёй палемікай, не будзе меў (павінна быць: *не будзе мець* — рэд.) прэтэнзіі да мяне, што, маўляў, быццам бы я абмінуў маўчаннем некаторыя глыбока хвалюючыя яго ў нашым Падляшскім краі нацыянальныя пытанні, а ўсяго толькі да сваіх ніўскіх экспертаў ад дабрасумленнай (павінна быць: *па добрасумленнай* — рэд.) інфармацыі.

**Юры Трачук**

**Ад рэдактара:** Спадар Трачук, калі б поўнасцю надрукаваць Вашу палеміку са сп. Куптэлем, яна заняла б нам дзве старонкі. Тое, што не датычыла сутнасці справы, напрыклад, замалёўкі з гісторыі Украіны, украінска-польскія адносіны, ці чыста філасофскія разважанні мы не надрукавалі з-за чыстай пашаны для нашага чытача. Рэдакцыйная права караціць тэксты — гэта не цэнзура, а Вы мелі, здаецца, магчымасць выказаць свае найбольш радыкальныя антыбеларускія погляды на старонках беларускага часопіса. Ваш сказ пра цэнзуру гучыць тады што найменш дзіўна. Сумнае толькі тое, што „Беластоцкі Класік Беллітаратуры" кідае эпітэты ў Вашай прысутнасці. Усё-такі шкада, „Класіка".

**Яўген Міpановіч**

## ПОЛЬСКАЕ ВЫДАННЕ „ПЕСНІ ПРА ЗУБРА"

Мілым акцэнтам адзначылі Белавежскі нацыянальны парк і Польскае лясное таварыства 65-годдзе вяртання ў Белавежскую пушчу зуброў пасля іх вынішчэння падчас I сусветнай вайны. Абедзве ўстановы выдалі супольна польскі пераклад „Песні пра зубра" (Pieśń o żubrze) Міколы Гусоўскага.

Паэму, напісаную па-латыні ў 1521-22 гадах і выдадзеную ў 1523 г. у Кракаве, на польскую мову пераклаў на пачатку XX ст. польскі паэт і драматург Ян Каспровіч. Фрагменты гэтага перакладу былі надрукаваны ў 1913 г. у часопісе „Słowo Polskie". Намер надрукаваць твор поўнасцю ў львоўскім часопісе „Lamus" (у верасьнёвым нумары за 1914 г.) не ажыццявіўся па прычыне заняцця Львова расейцамі, у выніку чаго друкарня была знішчана, а гатовы набор рассыпаны. Фрагменты Каспровічаўскага перакладу „Песні" былі яшчэ надрукаваны ў выбраных творах аўтара „Księgi ubogich", выдадзеных у міжваенны перыяд, і ў анталогіях польска-лацінскай паэзіі, выдадзеных пасля II сусветнай вайны. Поўны пераклад упершыню паявіўся, вось, некалькі тыдняў назад.

Добра сталася, што ў белавежскім выданні паэмы (тыраж — 2 тысячы паасобнікаў) польскай версіі спадарожнічае лацінскі арыгінал. Тэксты абодвух версій папярэджваюць прадмовы праф. Анджэя Шуецкага і д-ра Чэслава Аколава, а завяршаюць даволі абшырныя зноскі і слова ад рэдакцыі.

Пры нагодзе варта ўспомніць, што пераклад „Песні пра зубра" на беларускую мову зрабіў Язэп Семяжон (у 1969 г.). Ён быў надрукаваны ў „Полымі" (н-р 6 за 1969 г.), а таксама ў асобнай кніжцы, выдадзенай у 1973 г. мінскім выдавецтвам „Мастацкая літаратура".

**Пётр Байко**

## Палюбіць танк

Сапраўдны танк мае гусеніцы і ствол. Савецкі танк Т-34 два гады таму прывёз з Гайнаўкі на сваю гаспадарку адзін земляроб з вaколіц Піша, што ў Сувальскім ваяводстве. Заплаціў за яго 1 мільён злотых. Танк паставіў на панадворку, па якім калісь пралягала граніца Польшчы з Усходняй Прусіяй. У першыя дні паліцыя атрымала скаргу ад суседа, якога ўстрывожыла наведзенае на яго дом дула. З часам аднак суседзі пачалі прывыкаць да новай сітуацыі і нават палюбілі стальнога госця. На яго ствале дарослыя сталі вешаць дываны для чысткі, а дзецям вельмі ён прыгадзіўся да гульні ў „чатырох танкістаў". Таксама і гмінныя ўлады думаюць як гэтай асаблівасцю зацікавіць турыстаў.

**Андрэй Гаўрылюк**

## АЛЯПКА

Ад кастрычніка да сакавіка над чыстымі і незамярзаючымі водаміВарміі можна сустрэць сапраўдную горную птушку — аляпку. Гэтая невялікая, як шпак, птушка мае зверху апярэнне буравата-шэрае, знізу — белае. Аляпцы адпавядаюць рэкі чыстыя, якіх берагі зараслі кустамі, а дно, не глыбейшае за 1 метр, камяністае. Найважнейшай, аднак, з'яўляецца чыстая вада таму, што птушка гэтая, ныраючы, дабывае свой корм з дна ракі; забруджаныя рэкі ёй зусім непрыгодныя. Такі нетыповы спосаб дабычы корму пеўчай птушкай адносіць аляпку да арніталагічных асаблівасцяў. Птушка гэтая, так звязаная з вадою, не мае тыповых для водных птушак абалонак між пальцамі, так патрэбных пры ныранні. Мае яна, аднак, інакш збудаваныя, цяжэйшыя косці. Калі нырае, спецыяльнымі скурыстымі перапонкамі закрывае свае ноздры. Каб не панясло цячэнне, раскладае крылы так, што вада прыціскае яе да дна. Апярэнне аляпкі густае, пакрытае спецыяльным непрамакальным рэчывам. На дне рэчкі аляпка варочае каменне і з-пад іх дабывае чарвякоў і насякомых. Дзе вада чыстая і багатая кіслародам, там многа насякомых і аляпкі маюць чым карміцца зімою. Пад вадою могуць гэтыя птушкі прабываць да 15 секунд, пасля выплываюць наверх і на валуне або галіне з'ядаюць сваю здабычу.

У Польшчы аляпкі водзяцца ў горных рэчках на поўдні краіны. Адкуль яны ўзяліся на поўначы, на Варміі? Аказваецца, што птушкі гэтыя на асенне-зімовы сезон прылятаюць да нас са Скандынавіі. Аляпкі, якіх лічаць дрэннымі лётчыкамі, сумеюць усё ж такі пераляцець Балтыйскае мора. Устаноўлена гэта з дапамогай кальцавання: птушак, якім заложана кольцы ў Швецыі, знаходзілі ў нас, а тых, якім кольцы заложана на Варміі, знаходзілі ў Швецыі. Да нас прылятаюць яны аднак толькі ў госці, бо тут не гнездзяцца, хаця ўжо ў ваколіцы Гданьска знойдзена адно гняздо.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Усё — для выбраных

Прачытала я „Кар'еры" ў „Ніве" (ад 8 і 15 студзеня 1995 г.) аўтарства Васіля Сакоўскага і стала мне сумна. Тое, што цяпер творыцца ў нашай краіне, вядзе да таго, што ўсё будзе для некаторых. Не праца і адукацыя будуць іграць вялікую ролю, а грошы. Хаця, вядома, грошы не ўсё і шчасця толькі яны не даюць, але вазьмі пражывi ты без іх...

Недзе з месяц таму глядзела я ў тэлебачанні праграму пра тое, як вельмі вясцца людзям у ліквідаваным ПГРы. Паказалі адну сям'ю, у якой бацька — пенсіянер, маці страціла „куранёўку", а дачка, што закончыла адукацыю ў пачатковай школе, не пайшла вучыцца ў тэхнікум, бо не маюць грошай на білеты, не гаворачы ўжо пра кватэру. Колькі ж такіх сем'яў! А будзе іх усё больш у такі час! Невядома, калі чалавек знойдзецца „на бруку".

Уласную фірму можаш набыць, калі маеш грошы. Калі трэба браць крэдыт — лепш не бярыся за такі бізнес! Мала людзей абанкруцілася? І не будзе лепш — грош зарабіць цяжка, асабліва ў меншых мясцовасцях. Калісьці з вёсак даязджалі на працу ў горад, а цяпер ліквідуюцца рэйсы аўтобусаў і цягнікоў.

Так, сённяя ўсё — для багацеяў. Адукацыя, кар'ера, лячэнне... Абавязкова трэба стварыць фонд дапамогі найбяднейшым сем'ям, бо счэзнуць. Багатых гэта не цікавіць, а бедныя ледзь самі жывуць.

Мая бабуля часта ўспамінала „бежанства". Многія з нашых засталіся б там, куды заехалі, але пабаяліся разні ў час рэвалюцыі і паводзін уладаў пасля. Баба ўспамінала, як сялянам прыказвалі прывозіць зерне і ссыпаць яго ў адну вялікую кучу. І ляжала тое зерне пад даждЖом, аж згніло. Каму не баліць марнатраўства! Вярнуліся нашы на радзіму, пачалі будавацца, жабраваць у багатых гаспадароў, каб мець чым засеяць сваё поле. У нашай Семяноўцы, дзе слабыя землі, вельмі ж цяжка жылося людзям. Як абоз ішлі ў Лясную, каб зарабіць. У школы не ўсе хадзілі, бо трэба было даваць дровы на ацяпленне школы і настаўнікавай кватэры, купіць кніжкі, атрамант, ручкі, плаціць крыху грошай за навучанне... Пасля вайны мала хто закончыў тэхнікум, а пра нейкі універсітэт не было нават гаворкі. З Семяноўкі тады пайшлі вучыцца дзве дзяўчыны. Адна стала настаўніцай (цяпер ужо на пенсіі), другая працуе лекарам. А яшчэ адна працавала медсястрой пасля нейкіх курсаў...

А што будзе цяпер? Можа зноў вернуцца колішнія парадкі?..

**Аўрора**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне страшны сон. Быццам еду я на сваёй машыне па адной з цэнтральных вуліц Беластока. Пад'язджаю да перахода і раптам адчуваю, што мой самаход траціць сваю моц. Я дадаю газу, цісну як магу на педаль, але самаход ледзь пасоўваецца наперад і ніяк не можа з'ехаць з перахода. Мне страшна, бо людзі ўжо рушылі, а мой самаход перашкаджае ім.

Нарэшце мне неяк удалося крануцца, і самаход паехаў, скачучы, як жаба. Раптам яго страсянула, я не зразумела, што здарылася, і павярнула ў сваю вулачку. Тут затрымалася. Выйшла з самахода. Бачу, што ў мяне адвалілася адно задняе кола. Якраз па маёй вуліцы едзе нейкі аўтамабіль. Я затрымліваю яго і прашу, каб ён прывёз маё кола, якое адвалілася. Ён не хоча гэтага зрабіць, хаця я яму тлумачу, што гэта вось тут, за паваротам.

Тады я сама выглядаю на тую вуліцу, але кола не бачу нідзе. Затое бачу, што на тым адрэзку, па якім я ехала, ляжыць, раскінуўшы рукі, акрываўлены мужчына ў белай кашулі і цёмных штанах. Нікога няма каля яго — ні паліцыі, ні хуткай дапамогі, ні людзей. Я гляджу на яго са страхам. Думаю: „Няўжо гэта я яго падбіла?!" Не разумела я нават, у якім момансе гэта здарылася. Я ведаю, што людзі ішлі на пераходзе, а труп ка ляжаў далей, там, дзе перахода няма. Мо гэта не я?! Страх паралізуе мяне. На гэтым прачынаюся. Вельмі баюся, Астроне.

**Анна**

Анна! І не памыляешся. Пагражае табе смяртэльная небяспека. Аб гэтым сведчыць не столькі адпаўшае кола, колькі акрываўлены чалавечы труп, што ляжаў на вуліцы. Няважна, ці гэта ты на яго наехала, ці хтосьці іншы.

А мо проста табе ўсё гэта прыснілася на змену пагоды. Тады часта сняцца такія кашмары.

**АСТРОН**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. шпіён, 8. невялікае, назойлівае насякомае, 9. крайняя дошка, 10. страта, шкода, 11. жыхар вайсковых абласцей Расеі, 13. вымаўленне „а" замест „о", 15. дадатак, 16. астатак ампутаванай канечнасці, 20. разнавіднасць капусты, 22. порт на поўначы Расеі, 23. заўвага, 27. велічыня (мн. л.), 29. круг роляў, якія адпавядаюць сцэнічным здольнасцям артыста, 30. суправаджае зграненне, 31. горад над верхняй Волгай, 32. расійскі кампазітар (1804—57), 33. рэакцыя, водгук, 34. дамашняя жывёла.

**Вертыкальна:** 1. трапічная птушка сямейства буславых, 2. зніжэнне сардэчнай дзейнасці, 4. меркаванне, якое пярэчыць разумнаму сэнсу, 5. тоўстая вяроўка, 6. лік, 7. дрыгва, 12. вулкан між Явай і Суматрай, 14. вялікі індыйскі горад, 16. аўтаномная рэспубліка на поўначы Расеі, 17. кірунак руху, 18. вясковы дом, 19. беларускі тыднёвік, 21. від гармоніка, 24. карысць, 25. вырабляе гліняную пасуду, 26. ліпкі сок хвойных раслін, 27. керамічная сыравіна, 28. будынак для часовага жылля.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 1 н-ра:**

**Направа:** Бельск, Аўстрыя, Сувалкі, актава, СССР, Ігналіна, лірыка, Беласток, рэферат, абеліск, Азія, сад, Орша.

**Налева:** Бранск, лесавік, стрэлка, амін, сяліба, тундра, стральба, вальфрам, касілка, анероід, Омск, сто, душа.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Бэата Капій** з Любліна і **Мікалай Красоўскі** з Бельска-Падляшскага.

## ЛЕГЕНДЫ НАШАЙ ЗЯМЛІ

***

У вёсцы **Альхоўка**, што знаходзіцца ў 4—5 кіламетрах ад Нараўкі, ужо з вуліцы відаць шчыльную сцяну Белавежскай пушчы. Тут нядаўняе мінулае сплялося з паданнямі і легендамі адлеглай старажытнасці ў дзівосны твор, насычаны тхненнем пушчанскіх нетраў. Вось хоць бы ўрочышча Шведава, якое знаходзіцца непадалёк Альхоўкі ў 63 квартале пушчы. Там узвышаеццааграмадны капец-курган, сумны і задуменны.

Дзед мой расказваў, што ўзвялі яго шведы і пры гэтым згубілі шапку, па якую яны яшчэ сюды вернуцца.

Наогул курганы, у якіх, паводле легенды, пахаваны забітыя шведы, параскіданы па ўсёй тутэйшай частцы пушчы, якая звецца Броўск. Найбольш жа іх у 37 і 49 кварталах.

***

У **Каралёвым Мосце** на адным канцы вёскі перад Першай сусветнай вайной пабудавалі прыгожую царкву. Іканастас для яе прывезлі з Гродна. З другога боку вёскі стаіць капліца, пабудаваная ў 1863 годзе тадышнімі ўладальнікамі маёнтка Янаполь Саковічамі.

Капліца ўвекавечвае змаганне паўстанчага аддзялення з Бельскага павета, які ўзначальваў Эдуард Кярсноўскі „Гром". Тады загінула 22 паўстанцаў, але атрад прабіўся цераз акружаючае войска і заняў выгадныя пазіцыі на ўзгорках і такім чынам не дайшло да чарговай атакі.

Паводле легенды, пры капліцы знаходзіцца таксама магілы салдат напалеонаўскай арміі з 1812 года.

*Легенды запісаў*
**Янка Целушэцкі**

ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

## Біяграфія аднаго горада

Чым больш даўні горад, тым цяжэй устанавіць яго першапачатковую назву. Дэлі — сталіца Індыі, краіны вялікай і старажытнай культуры. Яшчэ ў XIV стагоддзі мусульманскі ўладар Алаўдзін назваў гэты горад, дзе быў палац Сіры і цытадэль славы, падвойным іменем Каушаке-Сіры і Кілаe-Алан. Не пражыла гэтая назва і дзвюх гадоў, як новы праўца Туглак даў гораду сваё імя Туглакабад. Але ўжо праз чатыры гады яно памянялася на Джаханпанах і пазней — на Фіразабад — па імені шаха Фіраза. У сярэдзіне XVII стагоддзя шах Джахан называе горад Шахджаханабадам. Калі ў Індыю прыйшлі каланізатары з Англіі, на месцы вёскі Расіна яны збудавалі новы горад Нью-Дэлі (Новы Дэлі), а праз некаторы час было адноўлена старое і забытае імя старажытнай Індыйскай сталіцы — Дылі або Дэлі, якая была закладзена царом Дылу. У сярэдзіне IX стагоддзя Анангапал пабудаваў новы горад і назваў сваім імем Анангапалпур (пур — цытадэль, умацаваны горад). Пазней ён называўся Лалкот (жыллё, паселішча) і Пітхаурагарх (гарх — умацаванае жыллё). І нарэшце стаў Дэлі. Колькі часу патрацілі вучоныя, каб разблытаць біяграфію аднаго толькі горада.

**Ясень**

## 50 гадоў разам

У міхалоўскім ЗАГСе адбылася мілая ўрачыстасць з удзелам шматгадовых сужонстваў-юбіляраў. Пяць пар святкавала 50-годдзе шлюбнага жыцця. Былі гэта: Ян і ГаленаНазаркі, Станіслаў і Станіслава Гудэлі, Ян і Станіслава Раманоўскія, Казімір і Юльа Свяржэўскія ды Браніслаў і Ядвіга Жывецкія. Вышэйзгаданыя пары атрымалі медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё". Былі найлепшыя пажаданні здароўя, шчасця і сямейнай радасці ад войта Міхалоўскай гміны Уладзіміра Кананьчука і старшыні Гміннай рады Багуслава Асташэўскага.

Да пажаданняў далучаецца таксама рэдакцыя беларускага тыднёвіка „Ніва": Паважаныя Юбіляры, жывіце нам сто гадоў! Жадаем Вам таго, што найважнейшае — моцнага здароўя і шчасця, а таксама каб дачакалі дыяментавага шлюбнага юбілею.

**(яц)**

## У Беластоку
### найбольш малых „Фіатаў", „Паланезаў" і... „Мерседэсаў"

Жыхары Беластока ездзяць на 49 724 прыватных легкавых аўтамашынах і грузавіках. Легкавых аўтамабіляў маюць ажно 41 736. У 1994 годзе прыватныя асобы зарэгістравалі чатыры тысячы пасажырскіх аўтамабіляў, сярод якіх амаль тысяча было новых. Найбольш рэгістравaных было малых „Фіатаў", „Паланезаў" і... „Мерседэсаў". Вельмі мала ездзіць па гарадскіх вуліцах „Сірэн", „Варшаваў" і „Волгаў". Ад пару гадоў паяўляецца ўсё больш аўтамабіляў заходніх марак.

Беласток знаходзіцца ў авангардзе гарадоў нашай краіны, калі ідзе пра прырост новых аўтамашын.

**(яц)**





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33 (od 18 lutego — 421-033).

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1995 r. upływa 20 lutego 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

## Пароды

*І што ж ты варты чалавеча,*
*Калі не піў вады з крыніцы,*
*Калі ў ліпнёвы цёплы вечар*
*З нябёсаў не сцягаў спадніцы.*

**(А. Барскі,**
**„Гляджу я небу пад спадніцу")**

Іду ў ліпнёвы цёплы вечар
Пяшком па вуліцы шырокай.
Аж бачу — вецярок трапеча
Спадніцу на шнурку высокім.

З павагай, быццам аблачэнне
Нябёс блакіту, павявае.
Спыніўся я і ў задуменні
Па-філасофску разважаю.

Пра шмат-якія таямніцы
Што і глыбока, і высока
Скрывае за сабой спадніца
Перад маім цікаўным вокам.

Бывала, як ваду з крыніцы,
З распаленым ад смагі носам
Смактаў, завінуты ў спадніцу,
Кумпяк, быццам нектар нябёсаў.

Глынуў я сліну, у неба глянуў
Што, як кумпяк паружавела,
І, быццам віхар, нястрымана
З нябёс, са шнура, сцягнуў смела

Спадніцу, каб раскрыць сакрэты
Тканіны, што ў сабе скрывае.
Гляджу матэрыю — а гэта
Ануча брудная старая.

**Адам Маньяк**

## Думкі ўслых

* Кветкі бываюць нелаяльнымі. Садзіш іх, даглядаеш, а яны і так паварнуцца да сонца.

* Праз нейкі час прыкмеціў, што калі часцей мяняў бялізну, тады радчэй адыходзілі ад яго дзеўкі.

* Каб не траціць час, уставаў вельмі позна.

* Думаў, што яго маўчанне так красамоўнае, што можа выпускаць незадрукаваныя кніжкі.

* Праўда перамагае хлусню.
Праўда. Перамагае хлусня.
Праўда перамагае. Хлусня.

* Найбольш творчай ініцыятывы праяўляў, калі падпісваў свае кніжкі.

* Колькі ж трэба нагаварыцца, каб маўчанне стала красамоўным.

**Адам Сяменчык**

## НІЎКА



**Мал. А. Папова**

*ЮРКА ЗАДОЯ*

## Самазванец з будкі

Наведаў я нядаўна дзеда і бабу ў вёсцы. Дапамог трохі па гаспадарцы ім: дах пафарбаваў, накасіў сена для казы на зіму... Трэба было вяртацца дамоў у сталіцу, але не было аўтобуса. Людзі сказалі, што аўтобусы ходзяць цяпер толькі на „вялікія святы", бо няма бензіну. Стаю з дзедам на шашы, галасую. Міма пралятаюць легкавікі, толькі пыл у вочы пускаюць. Нарэшце спыняецца грузавая машына з будкай, з кабіны выглядае маладзенькі шафёр.

— Да Кіева?
— Да Кіева!
— Лезь у будку.

Залез. А там ужо поўна-паўнюсенька людзей. Але маю ўвагу прыцягнуў дзядок, які прытуліўся ў кутку. На двары спёка, а ён у ватоўцы, кірзавых ботах, шапцы-вушанцы. І гармонік пад пахай. Калі ўжо пад'язджалі да горада, дзядок прабраўся да задняга борта і кажа: „Я, людцы — бацька Сені... Ну, вадзіцеля нашага. Ён прасіў загадзя сабраць грошы, каб не мазоліць вочы міліцыі".

Без спешкі ён сабраў грошы, яшчэ і рэшту даваў, каму належыла. І папрасіў:

— Пастукайце Сеню. Мы тут непадалёк жывем — сыду.

Пастукалі. Крэхчучы, дзед злез. Пра што яны там з шафёрам размаўлялі, мы не чулі. Ды вось стукнулі дзверцы, машына паехала далей. А неўзабаве каля метро спынілася. Павылазілі мы з будкі і хто куды...

— Эх вы, шаноўныя! — усклікнуў шафёр. — Мы так не дамаўляліся. Ці ж я дарэмна бензін палію?

— Дык мы ўжо заплацілі вашаму бацьку, — кажу я.

— Якому яшчэ бацьку. Што ты вярзеш?!

— Ды таму дзеду, што нядаўна злазіў. Ён сабраў з усіх грошы і сказаў, што Сеню, вам — свайму сыну, аддасць.

— Цьфу ты! Ды ён і за сябе не заплаціў, усё паўтараў, што пенсіянер. І ніякі я не Сеня, а Пятро. І бацькі ў мяне няма, бо я сірата. А калі б быў бацька, ды яшчэ не такі, як гэты самазванец, дык я напэўна не круціў бы баранку.

І тут ён ад душы рассмяяўся, выцер лоб і сказаў:

— Ну і народ пайшоў... На хаду падноскі адрывае. Што ні дзень, то свежыя прыёмчыкі. Дык ужо ідзіце з Богам, грамадзяне пасажыры, на вячэрнюю паўлітэрку маю...

*Пераклаў з украінскай мовы*
*Валеры Бабей*

## АД ГАРЭЛКІ РОЗУМ МЕЛКІ*)

**Жонка:** — Ах ты п'яніца, гультай! Зноў прыйшоў дамоў раніцою. Скажы, што б ты рабіў, каб я гэтак позна прыхodзіла?
**Муж:** — Нічога. Сказаў бы: ідзі, маё золатца, спаць.

* * *

— Братачка, вып'ем яшчэ па чарцы. Бог ведае, калі ўбачымся...
— Выпіць вып'ем, але я цябе і цяпер ужо кепска бачу.

* * *

Сустрэліся Іван са Сцяпанам:
— Давай вып'ем па кілішку, — кажа Сцяпан.
— Не магу, браце, па трох прычынах, — адказвае Іван. — Па-першае, гарэлка шкодзіць здароўю, па-другое, мне доктар забараніў піць, а па-трэцяе, я п'яны ўжо.

* * *

**П'яны:** — Скажыце, дзе жыве Змітрок Канцавы?
— Дык гэта ж вы самі.
— Я ведаю, але скажыце, дзе ён жыве?

* * *

Урач, аглядаючы хворага, пытае:
— Гарэлку п'еце?
— А ў вас ёсць?!.

* * *

**МАНАЛОГ ВЫПІВАКІ**

П'юць жа людзі, п'юць у меру,
П'юць усюды, ды не ўсе.
Я таксама з дружбакамі
Выпіваю пакрысе.

На траіх бяру адразу,
А як двое не прыйшлі,
Наглытаюся ўжо гэтак —
Паўзу ракам па зямлі.

Не магу знайсці дарогі,
Каб міліцыю мінуць,
А назаўтра зноў шукаю,
Каб яшчэ дзе хлебануць.

Нейкі злыдзень фотаздымак
У газету надаслаў,
Як у лужыне я плаваў,
Як свінню я цалаваў.

А заўчора сон прысніўся,
Што з гарэлкі я сканаў,
І ніхто па мне не плакаў,
І ніхто не шкадаваў.

**АДАМ РУСАК**

**) З аднайменнага зборніка, які выйшаў у Менску ў 1988 г. у выдавецтве „Мастацкая літаратура".*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Мы хадзілі два гады. Кожны дзень сустракаліся. Не прыйшло мне ў галаву, што ён можа мець у той час іншую. Мама ўжо купіла мне нават матэрыял на шлюбную сукенку. Яна ж яго прымала як найдаражэйшага госця і меркавала, што і ў нас будзе ўсё, як у людзей — па чарзе і сумленна.

Усё здарылася выпадкова. Была нейкая сустрэча ў студэнцкай кампаніі. Мой хлопец не прыйшоў, і адзін сябра зацікавіўся, чаму яго няма. Ну, я яму спакойна адказала, што мае сёння важную справу да Ані (у сапраўднасці я яго прасіла, каб ён мне нешта пазычыў у нашай супольнай сяброўкі, а пасля меў прыйсці і далучыцца да нас). „Дык ён яшчэ з Аняй... (тут назваў незнаёмае прозвішча) не парваў?" — грымнула на мяне, як гром з яснага неба. „З якой, якой Аняй?" — не дачула я, а сябра паўтарыў яе прозвішча. Была гэта зусім іншая Аня, чым наша сяброўка. Я яе не ведала.

Мала-памалу, і я дайшла па нітцы да клубка. Прабач, Сэрцайка, да мяне прыходзіў і казаў, што кахае, разам мы хадзілі на дыскатэкі і ў кіно. Нанач ішоў да тае другой, якая без праблем давала яму ўсё, што было патрэбна мужчыну ў яго ўзросце. Жанчына была няшмат старэйшая за мяне, але ўжо паспела развесціся і зрабіла гэта з-за майго хлопца, бо і ёй, мабыць, як і мне, казаў, што ажэніцца з ёю. Не жаніўся, аднак, ні з ёю, ні маёй маме не сказаў ні слова, калі падсунула яму пад нос матэрыял, з якога, як сказала, магла б выйсці прыгожая шлюбная сукенка. Мама, ды і я, — мы глядзелі на свет шчырымі вачыма і не спадзяваліся такой подласці. Не разумелі, як можна жыць у такой мане. Калі спаў з той другою, дык, відаць, нешта ў адносінах да яе адчуваў. А, з другога боку, мне здавалася, што і мяне кахае.

Даражэнькае Сэрцайка! Высветлілася, што з той другой ён звязаўся ўжо тады, калі мы пачалі з ім хадзіць. Я шанавала яго за тое, што сцеражэ маё дзявоцтва, а ён у той час спаў з іншай. Дык сапраўды, навошта яму было жаніцца? Дагэтуль я думала, што можна кахаць толькі адну жанчыну, а высветлілася, што не заўсёды. Мы спакойна карысталіся адным мужчынам. Я — як дзяўчына, а яна — як спелая жанчына.

Ад часу, калі я даведалася пра ўсё, не хачу яго бачыць. Магу нават застацца ў дзеўках, але на ніякага мужчыну не гляну! Хіба ж і тая другая не спадзявалася, што ён „ходзіць" з іншай, тады, калі чакала яго нанач?! Але ён мне сказаў, што яна яго кахае па-сапраўднаму, а не так, як я, бо хоча быць з ім нават і цяпер.

Сэрцайка! У маім адзіноцтве ўсё думаю-перадумаю і нічога з гэтага ўцяміць не магу. Ці не павінен быў мой хлопец сказаць мне адразу і шчыра, што знайшоў іншую? Няўжо ён не верыў мне, што не буду яму перашкаджаць у яго шчасці? Навошта мне такі здраднік?! Я ж не хачу бачыць ні яго, ні яе — няхай сабе кахаюцца шчасліва, толькі мяне няхай не чапаюць.

Мама мяне пацяшае як можа. Кажа, што я яшчэ маладая і на сваёй дарозе сустрэну не аднаго мужчыну. Што ад нягоднікаў лепш быць далей. Але, ведаеш, мне балюча не столькі ад таго, што не выходжу замуж, што непатрэбнай сталася сукенка, што лопнула маё каханне, а ад таго, што свет перапоўнены няшчырымі людзьмі, якія прытвараюцца, што ўсё ў парадку, хаця робяць свінствы іншым направа і налева.

Навошта ён уводзіў мяне ў зман? Яму то было, відаць, добра — меў усё, што хацеў, без ніякіх праблем. А для мяне каханне — гэта нешта святое. Ніякай прафанацыі ў гэтым абшары я не прызнаю! Цяжка жыць з усім гэтым, Сэрцайка.

**Магдаліна**

Магдаліна! Расказваюць старыя людзі, што раней такія рэчы былі зусім звычайныя. Асабліва сярод заможных і высокапастаўленых кругоў. Адну кахаў, абагатвараў, прагнуў яе, хацеў, каб сталася яго жонкай, а фізічным раскошам аддаваўся без рэшты з іншай, а часамі і з кім папала.

Цяпер насталі такія часы, што хлопцы ў асноўным задавальняюць свае мужчынскія патрэбы з каханай дзяўчынай. Сёння з гэтым не робяць вялікіх праблем. Таму можна падазраваць, што хлопец твой — выключна няшчыры. Пастарайся выкінуць яго з галавы!

**СЭРЦАЙКА**